

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 9 лістапада 1990 г. № 45 (3559) ● Цана 10 кап.


Хлебаробская дынастыя Жураўлёвых з калгаса «XXVII з'езд КПСС» Камянецкага раёна. Штогод сямейны экіпаж займае першыя месцы...

Сёння гэтак падпісваць здымак не хочацца. Рука мкне напісаць проста. Звычайная вясковая сям'я. Працавітая, сумленная. Віктар Міхайлавіч Жураўлёў — механік, яго жонка Валянціна Ануфрыеўна — настаўніца, двое іх дзетак. А паперадзе — маці і бабуля Вольга Раманаўна Жураўлёва.

Добрай долі ім!

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

ЛІСТ У НУМАР

## Я выпісала «ЛіМ»

**Шаноўныя сябры-лімаўцы! Я не вельмі падтрымліваю ваш песімістычны настрой адносна беларускамоўных выданняў. Газета «Літаратура і мастацтва», іншыя нацыянальныя газеты і часопісы на роднай мове павінны жыць і дыхаць на поўныя грудзі, бо яны патрэбны нам, чытачам, нашаму народу. Толькі нельга выступаць беларускаму друку ў ролі прасіцеля. Трэба пратэставаць, трэба беларусам быць зацятымі і ўпартымі, калі гаворка ідзе пра нацыянальную годнасць, культуру, не пасаваць перад кахабай.**

**Я выпісала «ЛіМ» на наступны год, да таго ж падаравала на дзень нараджэння падпіску брату, бо лічу, што «ЛіМ» па-сапраўднаму прагрэсіўная і інтэлігентная газета.**

**І не вельмі перажывайце, шаноўныя лімаўцы, а працуйце, як вы працавалі дагэтуль — на высокім журналісцкім і грамадзянскім узроўні. Колькасць падпісчыкаў — гэта істотна, але не трэба ўсё ж ганяцца за ёй. Людзей разумных, на жаль, заўсёды менш. Але ж менавіта ім патрэбна ваша газета, а не бульваршчына. Памятайце пра гэта.**

**А пакуль будзьце мужнымі, цікавымі і патрэбнымі! Ніякая газетная масоўка не павінна заглушыць наш чысты жывы струменьчык адраджэння. Поспехаў вам і вытрымкі, сябры! Мы — з вамі!**

**М. ШЧУКІНА.**

г. Мінск.

●

*Працягваецца падпіска на штотыднёвік «Літаратура і мастацтва». Яго можна выпісаць у рэспубліцы да 1 снежня г. г., а за яе межамі — да 15 лістапада.*

*Калі чытачы «ЛіМа» ў іншых рэспубліках не могуць афарміць падпіску у мясцовых аддзяленнях сувязі, раім ім звяртацца непасрэдна ў аддзяленні «Саюздруку».*

*Часу засталося няшмат, паспяшайцеся!*

*Індэкс «ЛіМа» — 63856; падпісная цана на год—5 руб. 16 кап.*

*З пошты гэтага тыдня*

# КАЛІ Ж БУДУЦЬ БЕЛАРУСКІЯ УНІВЕРСІТЭТЫ

Беларускі царкоўна-грамадскі часопіс «Голас часу», што выдаецца ў Лондане, у сваім нумары 5/8 за 1990 г. перадрукаваў з польскай прэсы такое паведамленне:

«16—17 чэрвеня г. г. адбыўся ў Горадні арганізацыйны з'езд Саюза Палякаў на Беларусі, у каторым прыняло ўдзел больш за 400 дэлегатаў ад польскіх таварыстваў з Пінска, Берасьця, Ліды, Мінска, Віцебска, Магілёва, Горадні. Кіраўніком СПБ выбралі Тадэвуша Гавіна з Горадні, палкоўніка савецкіх пагранічных войск. У найбліжэйшых планах Таварыства м. ін. маецца выдача польскай газэты і адкрыццё ў Берасьці польскага універсітэту. Мясцовыя дзеячы налічваюць палякаў на тэрыторыі БССР каля 1 мільёна, але ў мінулым годзе афіцыяльны перапіс насельніцтва паказаў толькі 418 тысяч нашых землякоў над Нёманам («Тыдзень Польскі» № 27, субота 7 ліпеня 1990 г.)».

Я хацеў бы ў гэтай цытаце звярнуць увагу на адно: СПБ «у найбліжэйшы» час мяркуе адчыніць польскі універсітэт у Брэсце.

Як бачыце, палякі (дарэчы, што б гэта азначала, што Саюз палякаў Беларусі ўзначальвае не вучоны, пісьменнік або дзеяч культуры, а палкоўнік?) разумеюць, што мала адчыніць польскія школы. Для таго, каб гэтыя школы не пуставалі, патрэбен стымул для вывучэння польскай мовы. Такім стымулам і закліканы з'явіцца польскі універсітэт. У старажытным беларускім Бярэсці. І гэта ў той час, калі на Беласточчыне няма й гаворкі пра беларускую ВНУ, калі там зачыняюцца беларускія школы і паляцца праваслаўныя храмы.

Зразумела, аднаму СПБ такую махіну, як універсітэт, не падняць. Але можна не сумнявацца, што на дапамогу будзе працягнута рука з Польшчы, рука ўрада. Забяспечыць праграмамі, падручнікамі, выкладчыкамі, якія будуць выкладаць гісторыю Беларусі ў польскай інтэрпрэтацыі (а адным з найважнейшых пунктаў той інтэрпрэтацыі з'яўляецца і сцвярджэнне, нібыта на Беларусі і дагэтуль аж мільён палякаў).

А што ж беларускі ўрад? Як паставіцца да такой ідэі? Будзе стрымліваць адкрыццё універсітэта ці, наадварот, дапамагаць? Падбярэ, напрыклад, памяшканні, бо па кватэрах жа універсітэт не размесціш? Мабыць, так і будзе. Наш жа ўрад вельмі «талерантны», калі гаворка йдзе не пра свае, беларускія інтарэсы.

Як ні дзіўна, адраджэнне пальшчызны на Беларусі рухаецца куды хутчэй, чым беларушчыны. І хто ў гэтым вінаваты, як не ўрад ды Вярхоўны Савет? Вось чытаю «Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР». Што ж прадугледжана ёю?.. Аказваецца, колькасць школьнікаў, якія вучацца на беларускай мове, «прывесці ў адпаведнасць з нацыянальным саставам насельніцтва рэспублікі» плануецца... да 2000 года! Гэта значыць, тых беларускіх дзяцей, што сёлета пайшлі ў рускія школы, так і мяркуецца пакінуць у рускай мове. Гэта значыць, аж дзесяць новых пакаленняў беларусаў, нават цяпер, калі беларуская мова абвешчана дзяржаўнай, не атрымаюць беларускай адукацыі!

Што ж датычыць вышэйшай школы, то стварэнне беларускамоўных універсітэтаў, тэхнічных інстытутаў і не плануецца! Што ж мы тады за нацыя, што за суверэнная дзяржава, калі не будзем мець нацыянальнай інтэлігенцыі?

Урад адкладвае беларусізацыю Беларусі на потым, як нейкую абавязковую, але вельмі ўжо прыкрую, непрыемную справу. Пры гэтым ківаюць і на «вопыт» прыбалтыйскіх рэспублік, з іх канфліктамі на моўнай глебе, і на нястачу падручнікаў, выкладчыкаў і г. д.

Усё гэта адгаворкі. Беларусізацыя можа выклікаць супраціўленне толькі купкі шавіністычна настроеных людзей, бо бальшыня насельніцтва рэспублікі — беларусы, рускія, палякі, украінцы, яўрэі — ведаюць або добра разумеюць беларускую мову і не зазнаюць моўнага дыскамфорту. Гэтаксама не павінна быць і праблемы з выкладчыкамі ВНУ. Пераважна яны — беларусы, у той ці іншай ступені валодаюць роднай мовай. Дык няўжо для прафесара, дацэнта, кандыдата навук, г. зн. найболей здольных людзей нацыі, будзе складаць нейкія цяжкасці не вывучэнне мовы, а асвяжэнне яе ў памяці? А каб асвяжэнне ішло хутчэй, можна ж і зарплату павысіць тым выкладчыкам, хто чытае лекцыі, вядзе заняткі на беларускай мове. Выдаткі? Так. Але ж ці можна спыняцца перад выдаткамі, калі ад іх залежыць лёс нацыі?

Яшчэ адна ўяўная «цяжкасць» — нераспрацаванасць навуковай тэрміналогіі. Няпраўда! Беларуская навуковая тэрміналогія існуе, практычна, ва ўсіх галінах: дзякуючы Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, Энцыклапедыі Прыроды Беларусі, «Весцям Акадэміі навук», нарэшце, школьным падручнікам.

Кажуць, няма беларускіх падручнікаў для вышэйшай школы. Гэта трэба тэрмінова выпраўляць. Але старанны студэнт можа абысціся і без падручніка, карыстаючыся канспектам лекцый. Такія канспекты, падрыхтаваныя самімі выкладчыкамі, можна размножыць на ксераксе ў любой патрэбнай колькасці.

Стварэнне беларускамоўных ВНУ стала б магутным стымулам вывучаць родную мову для вучняў старэйшых класаў, каб паступаць і вучыцца ў гэтых інстытутах і універсітэтах. Цяпер жа наяўнасць у рэспубліцы толькі рускіх ВНУ адбівае ахвоту ў падлеткаў, юнакоў ведаць «непатрэбную» мову.

**Іван ЛАСКОЎ.**

г. Якуцк.

*Напярэдадні падзеі*

# ПРЫМАЮЧЫ ПРАГРАМУ «АДРАДЖЭННЕ»...

**З 11 па 14 лістапада ў рэспубліцы пройдзе пленум дзвюх супольнасцяў — Саюза кампазітараў Беларусі і Музычнага таварыства БССР. Інтэрв'ю карэспандэнту «ЛіМа» дае старшы кансультант СК кампазітар Віктар ВОЙЦІК:**

— Тэма нашага пленума — «Музыка для дзяцей у сістэме эстэтычнага выхавання». Няма патрэбы тлумачыць, наколькі яна надзённая, набалелая: чытачы «ЛіМа» пра тое ведаюць. Гэтая тэма закраналася ўжо летась у дыскусіі на з'ездзе кампазітараў. Праблемам эстэтычнага выхавання дзяцей рэгулярна надае ўвагу і Музычнае таварыства. І сёння, думаючы над тым, што трэба зрабіць, каб ажыццяўлялася ў рэспубліцы праграма «Адраджэнне», мы перад усім турбуемся за сваіх нашчадкаў. Якая ў нас духоўная аснова для выхавання маладых пакаленняў, якою яна можа і павінна быць?

Канцэрты пленума і пакажуць становішча ў гэтай галіне, дапамогуць вызначыць удзельную вагу беларускай музыкі ў дзіцячым асяроддзі, акрэсляць нашы задачы ў дачыненнях з будучымі пакаленнямі.

Дасюль праграмы пленумаўскіх канцэртаў складаліся паводле прынцыпу «нікога не пакрыўдзіць»: кампазітары падавалі заяўкі, выканаўцы, атрымаўшы ноты, браліся за працу і задавальнялі аўтарскія амбіцыі. Мы слухалі сваю музыку пераважна самі, зрэдчас здзіўляючыся, чаму моладзь не ідзе нас слухаць... Цяпер мы зрабілі інакш: звярнуліся да выканаўчых калектываў, у тым ліку самадзейных, і ўласна дзіцячых, і не толькі сталічных, з просьбай падабраць праграмы з іх наяўнага рэпертуару. Такім чынам будзе прадстаўлена музыка, якую выконваюць не толькі на пленумах у сувязі з аўтарскімі просьбамі. У тым ліку будуць і творы вядомых у рэспубліцы музыкантаў, якія фармальна не з'яўляюцца кампазітарамі, не ўваходзяць у наш саюз, але многа і плённа пішуць для дзяцей, будуць і творы кіраўнікоў дзіцячых калектываў, і музычныя апрацоўкі, і аўтэнтычны беларускі фальклор.

Зразумела, не ўсе нашы кампазітары будуць прадстаўлены ў канцэртах, бо проста фізічна немагчыма паказаць, напрыклад, кожны школьны хор, які супрацоўнічае з нашымі калегамі. Хто будзе ўдзельнічаць? Сімфанічны аркестр Дзяржтэлерадыё БССР з дырыжорам А. Лапуновым, дзіцячы фальклор-тэатр «Госціца» пад кіраўніцтвам Л. Сімаковіч, хор Музычнага ліцэя (кіраўнік А. Мазурава), хор «Журавінка» мінскай СШ № 130 (кіраўнік А. Еўсюкоў), узорны дзіцячы хор «Сонейка» ПК Белсаўпрофа (кіраўнік Н. Жураўленка), аркестр народных інструментаў ПК «Юнацтва» (кіраўнік Г. Ермачэнкаў) і многія іншыя.

Прытым пленум не замыкаецца на Мінску. На базе музвучылішчаў у абласных цэнтрах, а таксама ў Баранавічах і Маладзечне пройдуць канцэрты беларускай музыкі з удзелам тамтэйшых выканаўцаў.

Пра новыя павевы ў нашым жыцці сведчаць, на маю думку, такія дэталі: выказалі жаданне ўдзельнічаць у пленуме Петрыкаўская ДМШ — яна пакажа сваю праграму — і ... Баранавіцкі гарадскі камітэт КПБ — ён прадстаўляе сваю залу для правядзення канцэрта. Зразумела, прадстаўнікі Саюза кампазітараў і Музычнага таварыства будуць у гэтыя дні ва ўсіх абласцях рэспублікі сустракацца з юнымі выканаўцамі, з кіраўнікамі самадзейных калектываў, з энтузіястамі музычнага асветніцтва.

А 14 лістапада — дыскусія, якая пройдзе ў Рэспубліканскім доме работнікаў мастацтваў. Прадбачу, што гаворка будзе зацікаўленая і вострая, бо яна датычыць духоўнага здароўя нашых дзяцей, а значыць — духоўнага здароўя нацыі.

**С. Б.**

## МІЖНАРОДНЫ ПЛЕНЭР ЖЫВАПІСУ

**У верасні — кастрычніку ў Мінску быў арганізаваны міжнародны пленэр жывапісу. Акрамя беларускіх мастакоў, у ім бралі ўдзел іхнія калегі з Балгарыі, Іспаніі, Італіі, Латвіі, Літвы, Расіі, Украіны, Эстоніі. Кіраўнік пленэра — Мікола Бушчык. З італьянскага горада Падуі прыехалі М. Унберта і М. Манфрэдзі. З Парыжа — Н. Штэрн і Б. Клаз'ен, з Барселоны — Б. Франчазэ і Ф. Мігель, з Варшавы — К. Казімеж, Мінск прадстаўлялі З. Літвінава і А. Кузьміч. Удзельнічалі і знаёмыя нам па міжнародным пленэры Гродна—89 мастакі А. Скавародка з Віцебска і М. Казакевіч з Гомеля. Тэмы мастакі выбралі пасля падарожжа па нашай Беларусі. Яны пабачылі Слонім, Жыровіцкі манастыр, Полацк, Браслаўскія азёры, Нясвіж. Падарожжа доўжылася два тыдні, а потым усе мастакі размясціліся ў доме адпачынку тэатральных дзеячаў у Астрашыцкім Гарадку. У кастрычніку творы І-га Міжнароднага пленэра жывапісу экспанаваліся ў Палацы мастацтваў. Гэтыя карціны будуць пакуль захоўвацца ва Упраўленні культуры, а ў будучым яны лягуць у аснову Музея сучаснага мастацтва ў Мінску, бо кожны з мастакоў падарыў адну з сваіх карцін гораду.**

**А. НЯДЗВЕЦКАЯ.**

## ШЛЯХАМІ КУПАЛАЎЦАЎ

**У Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна працуе выстаўка «Мастацтва жыццёвай праўды». Багатая экспазіцыя — публікацыі розных гадоў у перыёдыцы, альбомы, манаграфіі і іншыя выданні — дазваляе адчуць асноўныя этапы галоўнага тэатра рэспублікі — Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Наведвальнікі запыняюць увагу найперш на матэрыялах, якія пераносяць на семдзесят гадоў назад, калі калектыў рабіў першыя крокі.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# БЕЛАРУСКІ ДРУК: ПАТРАБУЕЦЦА ІНІЦЫЯТЫВА

**Як памятаюць нашы чытачы, нумар «ЛіМа» за 19 кастрычніка выйшаў з незвычайнай першай старонкай — забранымі ў чорную, «жалобную» рамку словамі «Беларускаму друку пагражае катастрофа». У нумары былі таксама змешчаны ліст галоўных рэдактараў часопісаў «Полымя», «Нёман» і «Беларусь» у Вярхоўны Савет БССР і рэдакцыйны каментарый, у якім распавядалася аб тым, што найбольш трывожыць нас, лімаўцаў.**

**Нельга сказаць, што сёння трывог значна паменела, але, бясспрэчна, выступленне газеты атрымала грамадскі розгалас, дало пэўны плён. Лімаўская акцыя была падтрымана з трыбуны рэспубліканскага парламента, больш канструктыўна пачалі вырашацца пытанні, звязаныя з забеспячэннем жыццядзейнасці беларускага друку. Днямі «ЛіМ» спыніў сваё «бяспачпартнае» існаванне і, нарэшце, на пяцьдзесят восьмым годзе жыцця атрымаў пасведчанне аб рэгістрацыі...**

**Працягваючы тэму, хацелася б закрануць яшчэ адзін яе аспект. Так, з сваімі клопатамі мы, супрацоўнікі беларускіх выданняў (у выніку вядомых прычын, на жаль, пераважна стратных) звяртаемся найперш да дзяржавы. Менавіта яна ўзяла на сябе абавязак па ажыццяўленню пэўных праграм — і пакуль што не абвясціла сябе банкрутам. З іншага боку, з вуснаў высокапастаўленага чынавенства мы чуем фарысейскія словы аб тым, што «друк першым выходзіць на рынак». Чаму фарысейскія? Ды таму, што рынак тут ні пры чым. Дзе ён, той рынак? Хіба ў нас з'явіліся свае шпрынгеры і максвелы? Проста нашы родныя ведамствы, карыстаючыся ўласнай звышманаполіяй і беспакаранасцю, узнялі цэны на паперу, на паліграфічныя і паштовыя паслугі. Толькі гэта не рынак, а звычайны валюнтарызм, калі называць рэчы сваімі імёнамі.**

**Так ці інакш, але нашы манапалісты, гуляючы ў квазірынак, усё-такі стварылі «новыя ўмовы» для нас, журналістаў. Становішча, аднак, не безнадзейнае. Мусім і мы, што называецца, «круціцца» — ёсць ідэі, праекты. Напрыклад, на старонках мінулага нумара С. Дубавец расказвае пра вопыт выдання газеты «Свабода», якая нядаўна выйшла з «падполля» і распаўсюджваецца праз кіёскі «Саюздруку».**

**А вось што даведаліся мы ад часопіса «Мастацтва Беларусі», перад калектывам якога востра паўстала пытанне: як жыць далей? Расказвае аўтар ідэі, загадчык аддзела кіно і тэлебачання часопіса Уладзімір МАЙСЕЕЎ:**

— Усё, што напісалі ў сваім лісце галоўныя рэдактары «Полымя», «Нёмана» і «Беларусі», — гэта і пра нас, пра сённяшні стан часопіса «Мастацтва Беларусі». З той хіба розніцай, што наш галоўны — маўчыць...

Разам з тым, Закон аб друку і іншыя заканадаўчыя акты, якія рэгулююць прадпрымальніцкую дзейнасць, даюць нам досыць шырокія магчымасці. Не скарыстаць іх — грэх. Так нарадзілася ідэя, дзеля ажыццяўлення якой нам трэба зрабіць два рашучыя крокі.

Першы крок — рэгістрацыя калектыву рэдакцыі ў якасці заснавальніка часопіса «Мастацтва Беларусі». Крок другі — рэгістрацыя калектыву ў якасці малога рэдакцыйна-выдавецкага прадпрыемства. Калектыў выбірае праўленне, праўленне на пастаяннай аснове прызначае рэдактара часопіса. Рэдакцыя, такім чынам, робіцца структурнай адзінкай малога прадпрыемства і займаецца выключна падрыхтоўкай і выпускам чарговых нумароў. Два-тры чалавекі з ліку членаў праўлення на пастаянай аснове займаюцца камерцыйнай дзейнасцю.

Растлумачу, што маецца на ўвазе. Сёння запланаваныя страты ад выдання «Мастацтва Беларусі» складаюць звыш 300 тысяч рублёў. Вядома, сума «непад'ёмная», бо мільянераў сярод нас няма. А вось палавіну яе з дапамогай спонсараў — а такія ўжо ёсць! — мы б адолелі. У гэтай палавіне і заключаецца сутнасць ідэі. Мяркуецца, што з наступнага года мы ўдвая зменшым перыядычнасць выхаду часопіса (6 нумароў замест 12), а на вызваленай паперы, пры ўмове захавання за намі ўсяго фонду выдзеленага, наладзім камерцыйны выпуск дадаткаў мастацкага напрамку. Як паказваюць разлікі эканамістаў, даход ад продажу дадаткаў павінен за год не толькі кампенсаваць страты ад выдання часопіса, але і прынесці нам прыбытак, каб ужо за свой кошт набываць неабходную колькасць паперы. А з цягам

## *Думка чытача*

# ЦІ ТЫЯ СПАДАРОЖНІКІ?

Не вытрымаў, вырашыў напісаць у вашу газету. Нагодай паслужыў ліст-зварот пісьменнікаў — членаў КПСС да ЦК Кампартыі Беларусі, апублікаваны ў «ЛіМе» № 40 пад назвай «Каму, якому народу служым?»

Я вельмі паважаю ўсіх, хто падпісаўся пад зваротам, іх імкненне адрадзіць нацыянальную культуру, але, на мой погляд, аўтары выбралі не той шлях вырашэння праблемы. Шлях гэты бесперспектыўны. У самім жа адкрытым лісце пісьменнікаў прыгадваецца зварот Якуба Коласа ў ЦК КПБ з аналагічнай просьбай 34 гады назад. Усе гэтыя заклікі, адозвы, нацэленыя на абуджэнне сумлення і літасці «гаспадара», невыканальныя. На жаль, партыя ніколі не разглядала праблемы той ці іншай нацыі. Партыя толькі карысталася своеасаблівай нацыянальнай арнаменталістыкай дзеля таго, каб не «спалохаць» намечаныя для далучэння да сацыялістычнага блоку народы.

Яшчэ ў самым пачатку «камуністычнага шляху» лёс беларускай нацыі быў вырашаны. «Мы лічым, што беларусы не з'яўляюцца нацыяй і што тыя этнаграфічныя асаблівасці, якія іх аддзяляюць ад астатніх рускіх, павінны быць зжыты». Гэта гаварыў камуніст з 1910 года В. Кнорын, сакратар ЦК КП(б) Беларусі.

1 студзеня 1919 г. была ўтворана БССР у складзе Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў. Відаць, ЦК РКП (б) гэта не вельмі задавальняла, таму што праз два тыдні, а іменна 16 студзеня, было прынята рашэнне ў Маскве аб перадачы Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў у склад Расіі. Без ведама насельніцтва, без яго згоды, толькі па ўказанні ЦК вырашыўся лёс многіх людзей. Жадаючы неяк растлумачыць народу тое, што здарылася, газета «Соха и молот» 8 лютага 1919 г. (Магілёўская губерня) сіліцца абяліць дзеянні ЦК РКП(б) у гэтым напрамку. Яна піша: «В наших школах, учреждениях, на собраниях пишут и говорят на обыкновенном русском языке. И только шарлатаны из числа Минской буржуазной Рады с помощью чужеземных штыков смогли навязать нам тот дикий белорусский язык, который для белорусского народа умер многие сотни лет назад».

Можна прыводзіць шмат прыкладаў, але хачу вярнуцца ў дзень сённяшні. Цяпер відавочна, што ў камунізме і развітым сацыялізме мы ўжо пабывалі. Калі хто-небудзь жадае сапраўднага адраджэння Беларусі, той павінен браць на ўзбраенне ўсё новае і карыснае з жыцця сусветнага грамадства, а не з догмаў Маркса, бо за паўтара стагоддзя камунізм так і застаўся той зданню, якая блукае па Еўропе. Трэба знайсці ў сабе мужнасць зразумець сітуацыю сённяшняга дня, каб выбраць правільную пазіцыю з тым, каб праз 34 гады якія-небудзь пісьменнікі-камуністы зноў не прасілі свайго «гаспадара» аказаць міласць. Толькі вось пытанне: ці захаваецца беларуская нацыя ў 2024 годзе?

Многія, відаць, не пагодзяцца з маім пунктам гледжання, будуць успамінаць і пэўныя «поспехі», але я думаю, што асноўны довад — гэта сённяшняе становішча ў нашай рэспубліцы. Няхай пісьменнікі, што падпісалі зварот, задумаюцца, ці тых яны выбралі «спадарожнікаў» у заўтрашні дзень?

**А. РЫЛЬКОЎ.**

г. Магілёў.

# ЧАС ЗРАБІЦЬ ВЫБАР

Я адзін з тых, каго раней называлі маўклівай большасцю, і, як прадстаўнік гэтай большасці, маю права быць пачутым.

Мяне не пакідае адчуванне, што мінаюць тыдні, якія б маглі акрэсліць будучыню Беларусі, але патанаюць яны ў абыякавым чаканні вырашэння лёсу рэспублікі цэнтрам. Цяжка бачыць гэта. На маю думку, незайздроснае нашае жыццё — вынік страты нацыянальнай свядомасці. Жывём, як чужынцы, на сваёй зямлі. Не шкадуем яе, не хочам ведаць бацькавай мовы, сваёй гісторыі, не хочам быць беларусамі, не хочам нават ратавацца ад Чарнобыля. Куды ўжо далей! На жаль, гэта ўсё, што мы займелі. А што страцілі?

1918 г. Брэсцкі мір. Беларусь ахвяруецца Германіі дзеля выратавання бальшавізму. 1920 г. Рыжскі дагавор. Большая частка Беларусі ахвяруецца Польшчы дзеля выратавання Савецкай Расіі. 1928—1939 гг. Вынішчэнне сялянства, інтэлігенцыі, прымусовая рэформа правапісу з мэтай набліжэння да рускага. 1939 г. Перадача Масквою Літве калыскі беларускай дзяржаўнасці — Вільні і Віленскага краю. 1940 г. Перадача Масквою Літве яшчэ амаль 6 тыс. км$^2$ беларускай зямлі ў якасці падарунка за яе ўваход у склад СССР. 1941—1944 гг. Вайна. Беларусь кінута пад ногі Германіі. Адыграла ролю «санітарнага кардону». 1945 г. Перадача Польшчы Беласточчыны дзеля вечнага сяброўства СССР і Польшчы. 1950—1970 гг. Змяненне назваў беларускіх гарадоў і вёсак. Татальная русіфікацыя адукацыі, справаводства. Гіганцкія будоўлі з прытокам рускамоўнага насельніцтва. 1970—1980 гг. Меліярацыя Палесся. Афганская вайна. 1986 г. Чарнобыль...

Калі ўлічыць і тое, што дзесяцігоддзямі знішчаліся помнікі гісторыі і культуры, што Беларусь аддала тысячы квадратных кіламетраў Міністэрству абароны СССР, што да дзесяткаў ракетных баз на Беларусі зараз далучаюцца войскі з Еўропы, што на Беларусь скінулі «яе» долю бюджэтнага дэфіцыту СССР, то як і на што нам жыць?

Пэўныя спадзяванні на лепшае жыццё зараз звязваюць з абнаўленнем Расіі. Але сучасная Расія — гіганцкая рэспубліка, якая не мае ўнутранай згоды наконт далейшых шляхоў свайго развіцця. Таму такія асобы, як Ельцын, Сабчак, Папоў і іншыя, не з'яўляюцца гарантыяй доўгатэрміновай прагрэсіўнай палітыкі. Да таго ж, сярод кандыдатаў у лідэры Расіі шмат людзей з месіянцкімі амбіцыямі і імперскім складам мыслення. Гаворачы аб Расіі, яны маюць на ўвазе ўвесь СССР. А дзе імперыя, там абавязкова ёсць і метраполія, і калоніі, і асіміляцыя.

З вялікай асцярогай я стаўлюся да эканамічных праграм, якія прадугледжваюць адзіную эканамічную прастору. Гэтую «адзіную эканамічную прастору» лепш за ўсіх скарыстае мафія, а адзіныя грошы, розныя ўзроўні развіцця рэспублік і адсутнасць таможні дапамогуць ёй. Урэшце, нават у выпадку поспеху праграмы адбудзецца ўсяго толькі эканамічнае развіццё беларускай тэрыторыі, а не Адраджэнне Беларусі.

Да таго ж, гэта будзе далейшая падтрымка «братэрскіх» сувязей, пры якіх эканоміка падпарадкоўваецца ідэалогіі і пры якіх немагчыма навучыцца жыць самастойна.

Ёсць і яшчэ адна акалічнасць. Адзіная эканамічная прастора прадугледжвае адзіны рынак працоўнай сілы. Калі гэта здзейсніцца, то, на маю думку, з надзеяй на адраджэнне Беларусі як непаўторнай з'явы сусветнай супольнасці прыйдзецца развітацца назаўсёды. Магутная мова міжнацыянальных зносін загучыць паўсюдна на Беларусі, а беларускай мове застанецца месца толькі на фальклорных святах на Белай дачы.

Удзел у стварэнні сучаснай краіны, свабоднай Беларусі — што можа быць больш натхняючым для яе грамадзян!

Давайце ж скарыстаем права на поўны суверэнітэт, абвешчаны Дэкларацыяй 27 ліпеня, тым больш, што пасля Чарнобыля Беларусь мае права на кампенсацыю за знявечаную зямлю, і такой кампенсацыяй можа стаць уся маёмасць Саюза ССР на тэрыторыі рэспублікі. Давайма ж скарыстаем суверэнітэт і як мэту і як сродак Адраджэння. Гістарычны прыклад — побач: прыбалтыйскія рэспублікі.

Час зрабіць выбар...

**У. МАРЧАНКА,**
**інжынер-электроншчык.**

г. Мінск.

# ПАЧЫТАЕМ КРЫНІЦЫ...

Каму з нас не вядома аб паўстанні Налівайкі? З захапленнем распавядае гасцям горада аб гэтых падзеях экскурсавод, наведвальнікам краязнаўчага музея прапануе паглядзець тут на карціну «Налівайка ў Магілёве», дзе барацьбіт за народную долю карае гнюсных эксплуататтараў. Тое ж самае вы прачытаеце ў падручніках па гісторыі БССР, як у старым пад рэдакцыяй Абэцэдарскага, так і ў «новым» пад рэдакцыяй Загарульскага. Там чорным па белым напісана, што Налівайку падтрымалі гараджане Магілёва, якія цярпелі ад каталіцкай экспансіі, ад рэлігійнага ўціску. Налівайка выглядае тут барацьбітом за праваслаўную веру, абаронцам беларусаў.

Давайце ўсё ж такі разбяромся, дзе тут праўда, а дзе мана.

Часам гавораць, што гісторык-дылетант адрозніваецца ад гісторыка-прафесіянала тым, што апошні чытае крыніцы, а не нечы іх пераказ, не прымае на веру канцэпцыі, якія не маюць дакументальных доказаў. Што ж, думка слушная. Давайце і мы паспрабуем звярнуцца да крыніц: Хронікі беларускага горада Магілёва Сурты і Трубніцкіх, Запісак Ігумена Орэста, Баркулабаўскага летапісу, Актаў археаграфічнай камісіі.

Сцвярджаецца, што Налівайка знайшоў падтрымку гараджан і быў сустрэты ледзь не з энтузіязмам.

Разгорнем Баркулабаўскі летапіс: «Лета божого нарожения 1595, месяца ноября 30 дня в понеделок за тыдзень пред святым Николою. Севериян Наливайко: при нем было козаков 2000, да 14 гаковниц. Место славное Могилев, место побожное, домы, крамы, острог выжгли, домов всех яко 500, а крамов з великими скарбами 400. Мещан, бояр, людей учтивых так мужей, яко и жон, детей малых побили, порубали, папаганили, скарбов теж незличоных побрали с крамов и з домов».

Стоп! Давайце, шаноўныя чытачы, крышачку паразважаем.

Як вядома, у 1580 годзе пад час Лівонскай вайны Магілёў быў амаль цалкам спалены маскоўскімі войскамі, дашчэнту былі спустошаны пасады горада. Такім чынам, 500 спаленых дамоў — гэта большая частка тагачаснага Магілёва; калі браць за 100 % лічбу інвентара 1577 года, у якім значыцца 1261 дом, то гэта амаль 40 % — нават калі не браць пад увагу спустошэнні 1580 года. Ні ў адной пісьмовай крыніцы мы не знойдзем сведчанняў аб падтрымцы магілёўцамі Налівайкі, таму што яе проста не было. Але вось што казакі «мешчан, бояр, людей учтивых (г. зн. гараджан) так мужей яко и жон, детей малых побили, порубали» — пра гэта дакументы сведчаць.

Гавораць, што Налівайка быў абаронца праваслаўя і барацьбіт з каталіцкай экспансіяй.

Але як растлумачыць тады той факт, што «абаронца праваслаўя» паліць праваслаўныя храмы? «...две приходские деревянные церкви, Рождество-Богородицкую, стоявшую близ Виленских градских ворот, и Благовещенскую, стоявшую на Ветреной улице (сучасная Ленінская) за большим валом, где ныне Костерня, сожгли» (Акты Арх. Комис. Т. 2. Приложение. Записки игумена Ореста. С. 5).

І яшчэ пытанне. З якім каталіцкім уціскам змагаўся Налівайка, калі першы каталіцкі храм, Фарны касцёл, з'яўляецца ў Магілёве толькі ў 1604 г.? А ў 1595 годзе ў горадзе не было ніводнага каталіцкага храма!

Дык ад каго абараняў Налівайка праваслаўных гараджан? Ад саміх сябе? А можа, «ратаваў» вольных гараджан ад іх маёмасці? Я лічу, што гэта больш адпавядае тагачаснай рэчаіснасці.

Такім чынам, мы можам канстатаваць звычайны разбойніцкі напад казацкай вольніцы, галоўнай мэтай якой быў трывіяльны рабунак багатага горада. Тут дарэчы прыгадаць паходы таго ж Налівайкі ў Малдову, іншых казацкіх атрадаў у Турцыю, паход Разіна ў Персію, якія яднаюць галоўныя мэты, дзеля якіх яны ажыццяўляліся — рабунак і ўзяцце багатай здабычы. Яны нічым не горшыя і не лепшыя за пірацкія рэйды прадстаўнікоў іншых народаў.

І яшчэ вось аб чым карціць сказаць. Напэўна, аўтары падручніка па гісторыі БССР (М. П. Баранава, Э. М. Загарульскі і Н. Г. Паўлава) лічаць сябе ўсё ж такі прафесійнымі гісторыкамі. Тады незразумела, якімі ж крыніцамі карысталіся паважаныя таварышы пры ўкладанні гэтага «перабудоўчага» падручніка?

**Ігар МАРЗАЛЮК,**
**студэнт IV курса гістфака**
**МДПІ імя А. Куляшова.**

г. Магілёў.

**ПА СТАРОНКАХ ДРУКУ**

# «Піянер Беларусі»: ПАД ЗНАКАМ АДРАДЖЭННЯ

**Загаворыць школа — загаворыць народ... Словы гэтыя апошнім часам паўтараюцца часта, калі справа тычыцца далучэння беларусаў да роднай мовы, да нацыянальнай культуры. Школа ж пачне размаўляць па-беларуску, калі яна стане сапраўды нацыянальнай. А пакуль што вярнуць беларускую мову ў школу павінны дапамагаць настаўнікі, бацькі, друк.**

**Але, і перыядычны друк, найперш дзіцячы. Як можна паспяхова гэта рабіць, сведчыць прыклад газеты «Піянер Беларусі». Перагарніце падшыўкі за апошнія гады і вы пераканаецеся, што яшчэ задоўга да таго, як быў прыняты Закон аб мовах у Беларускай ССР, рэдакцыя ўзяла кірунак на матэрыялы, якія прапагандуюць усё адметнае, нацыянальнае, знаёмяць чытачоў з культурнымі і гістарычнымі помнікамі рэспублікі, знакамітымі людзьмі, што жылі і працавалі на Беларусі ў розныя часы. Апошнім ужо часам гэтыя публікацыі сталі больш сістэмнымі, мэтанакіраванымі.**

**Вось пастаянная рубрыка газеты «Наша родная мова». Упершыню яна прапісалася ў «Піянеры Беларусі» ў 1983 годзе. Цяпер жа яна набыла як бы другое дыханне. Як правіла, тут выступаюць самі юныя чытачы. Яны рэгулярна атрымліваюць своеасаблівыя заданні. Каб выканаць іх правільна і своечасова, неабходна праявіць кемнасць, назіральнасць і, зразумела, добрае веданне роднай мовы. Не абыдзены і тыя, хто на яе забыўся ці ведае слаба: асобныя заданні разлічаны менавіта на такіх чытачоў. У час аднаго з заданняў «Піянер Беларусі» параіў хлопчыкам і дзяўчынкам паспрабаваць адзін дзень паразмаўляць дома, на вуліцы толькі па-беларуску. Што з гэтага атрымалася, відаць з допісаў — шчырых, непасрэдных.**

**Раздзел «Нам засталася спадчына» вядуць у газеце вядомыя пісьменнікі, навукоўцы, настаўнікі. Матэрыялы раздзела пашыраюць звесткі, якія дзеці атрымліваюць на школьных уроках. Так, намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Навука і тэхніка» З. Санько ў артыкуле «У «Нашай Ніве» — новае жыццё» расказаў пра факсімільны выпуск вядомай беларускай газеты, пазнаёміў чытачоў са зместам гэтага выдання, што стала «летапісам нацыянальнага Адраджэння, энцыклапедыяй вызваленчага руху на Беларусі». У. Арлоў у сваім выступленні звярнуўся да незабыўнага вобліку Ефрасінні Полацкай («У гонар знакамітай палачанкі»). В. Чамярыцкі паспрабаваў асэнсаваць жыццёвы і творчы подзвіг другога вядомага палачаніна — Францыска Скарыны («Дзеля ўзвышэння народа, дзеля выхавання чалавека»). Некалькі матэрыялаў надрукаваў тут археолаг І. Чарняўскі.**

**Гэты раздзел дапаўняюць рубрыкі «Экспедыцыя юных краязнаўцаў» і «Вандроўка юных фалькларыстаў». Чытачы запрашаюцца ў падарожжа па родным краі, каб уведаць паходжанне назваў роднай вёскі ці горада, запісаць легенды і паданні, якія бытуюць у пэўным рэгіёне.**

**Усё гэта спрыяе таму, каб дзеці адчувалі сябе маленькімі грамадзянамі менавіта Беларусі, той зямлі пад белымі крыламі, дзе ім пашчасціла нарадзіцца, дзе яны жывуць, зямлі, якую павінны любіць і шанаваць.**

**Ёсць у газеце і іншыя цікавыя і змястоўныя рубрыкі, як «Пароль: творчасць!», «Мой родны край», «Народнае мастацтва». Рэгулярна расказваецца на яе старонках і пра найбольш значныя кнігі беларускіх дзіцячых пісьменнікаў, вяртаюцца з небыцця забытыя імёны нашай літаратуры.**

**А крытычны закід можа быць, бадай, адзін: часам публікацыі газеты не заўсёды ўлічваюць узрост чытацкай аўдыторыі — надараюцца ў іх і ўскладнёнасць гаворкі, і абцяжаранасць моўных канструкцый.**

**ЛІМАВЕЦ.**

# Коннік з мячом над горадам



**Мінскі гарсавет падтрымаў ідэю Беларускага народнага фронту аб аднаўленні нацыянальна-гістарычнага бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня», а ў лідэраў фронту ляціць яшчэ болей камянёў. Чаму ж так адбываецца!**

**Аб гэтым, а таксама аб нацыянальнай самасвядомасці беларусаў журналіст Алесь Шагун гутарыць з адным з лідэраў БНФ, доктарам гістарычных навук, членам КПСС Міхасём Ткачовым.**

**— Міхась Аляксандравіч, напомню, што першы раз мы з вамі сустракаліся ў лютым гэтага года напярэдадні выбараў у Вярхоўны Савет рэспублікі. Грамадская атмасфера тады была насычана порахам палітычных страсцей. Здавалася, паднясі запалку і палыхне. З розных трыбун чуліся заклікі да байкоту, ізаляцыі народнага фронту. Усіх яго прадстаўнікоў агулам называлі экстрэмістамі. Ну а што датычыць беларускай нацыянальнай сімволікі, тых самых бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня», на якім — віцязь на кані з мячом у руцэ, то яна была занесена ў разрад нацыяналістычнай і нават фашысцкай, паколькі, маўляў, гэтыя сцягі выкарыстоўвалі ў 1917—1920 гадах буржуазныя нацыяналісты і нямецкія паслугачы ў час акупацыі. Разумныя ж довады другога боку проста не браліся пад увагу... І ўсё ж вы з аптымізмам сцвярджалі, што галоўныя ідэі і пункты перадвыбарнай праграмы БНФ — эканамічная рэформа, абвяшчэнне незалежнасці (суверэнітэту) рэспублікі, дзяржаўнасць беларускай мовы, выкрыццё ўсіх злавесных таямніц чарнобыльскай катастрофы неўзабаве будуць успрыняты ўсім грамадствам, уключаючы і яўных нядобразычліўцаў народнага фронту. Мінула крыху болей чым паўгода і збылося, здавалася б, самае неверагоднае — афіцыйнае прызнанне гістарычнай беларускай сімволікі.**

— Іначай і не магло быць. Віцязь на белым кані — гэта не нейкі злавесны сімвал, знак агрэсіўнасці БНФ. Пад ім змагаліся і паміралі, адстойваючы сваю волю ад нямецкіх крыжаносцаў, беларускія палкі. Пад гэтым сцягам нашы продкі пабудавалі сваю дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, у якой дзяржаўнай мовай была беларуская. Гэты сцяг абуджаў і абуджае нашу нацыянальную самасвядомасць і імкненне зберагчы, захаваць сваю зямлю. Бо і цяпер над нашымі лясамі і раўнінамі не меншая бяда, чым, даруйце за такое параўнанне,— татара-мангольскае іга над Руссю,— гэта чарнобыльская катастрофа. Тры гады пасля яе людзі спалі пад салодкахлуслівыя словы апарату, а хто іх разбудзіў, вывеў пад гэтым сцягам на вуліцу, на барацьбу? Народны фронт.

Мы павялі беларусаў пад знакам «Пагоні» на адраджэнне нацыянальнай духоўнасці, культуры, школы, мовы, зусім не заклікаючы да размежавання з іншымі народамі, а толькі ў цяжкай працы адраджаючы сваё, спрадвечнае, без якога беларус ужо не беларус, а проста бяздумны чалавек перакаці-поле. Гэта цяпер разумее кожны непрадузяты чалавек.

Але чаму ж вы тады, у цяжкім для БНФ лютым, не апублікавалі нашу размову? Здрэйфілі?

**— Не, тут іншае. Я вырашыў супаставіць два пункты гледжання — БНФ і ЦК Кампартыі Беларусі — на адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў.**

— Слушна: гэта дзве процілеглыя і пакуль што найбольш уплывовыя грамадска-палітычныя сілы ў рэспубліцы. І што ж?

**— Звярнуўся да сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі Валерыя Пячэннікава. Але ён адказваць на пытанні, якія цікавілі рэдакцыю, адмовіўся, спаслаўшыся на вялікую занятасць. Паслухаўшы парады памочніка Пячэннікава, спусціўся на прыступку ніжэй партыйнай іерархічнай лесвіцы, папрасіў прыняць для гутаркі загадчыка ідэалагічнага аддзела Аркадзя Русецкага. Ледзь толькі даведаўшыся, у чым справа, Русецкі зазлаваў, перайшоў на крык, ды такі, што, здавалася, награлася тэлефонная трубка: «Ды як вы можаце звяртацца да мяне з такім пытаннем? Вы што — не разумееце абстаноўкі? Яны (меліся на ўвазе лідэры БНФ) нас ігнаруюць, абліваюць гразёю, а вы прапануеце весці з імі мілую гутарку?»**

**Былі і яшчэ спробы пагутарыць на гэтую тэму з кіруючымі ідэолагамі ЦК, але, на жаль, час быў патрачаны марна.**

— Спачуваю вам, вы апынуліся між двух агнёў і атрымалася, як у класічнай прымаўцы: пакуль «паны» б'юцца, у мужыка чупрына трашчыць.

**— Дзякую за разуменне. Але мяне, Міхась Аляксандравіч, здзіўляе іншае. Як гэта вы ўстаялі між двух агнёў? З аднаго боку, з'яўляецеся адным з лідэраў БНФ, а з другога — членам КПСС. Між тым, ЦК КПБ паставіў пытанне так, што хто ўваходзіць у народны фронт, выключаецца з членаў партыі. А ў сваю чаргу, ваш калега, старшыня сойма БНФ Зянон Пазняк вельмі крытычна настроены да ўсіх камуністаў, катэгарычна адмаўляецца даваць інтэрв'ю карэспандэнтам партыйнага і савецкага друку, ведучы сябе ў адносінах да іх не заўсёды карэктна. Не дзіўна, што і журналісты плацяць яму часта тым жа: у лідэра градам сыплюцца камяні — злосныя артыкулы, памфлеты, рэплікі.**

— Ну, па-першае, у нас усё-такі не казарма і не таталітарная арганізацыя, а дэмакратычны народны рух. У статуце БНФ, прынятым у красавіку мінулага года на з'ездзе ў Вільні, запісана, што кожны, так сказаць, народнафронтавец вольны сам вырашаць, быць яму ў КПСС ці выйсці з яе радоў. Пакуль што гэтага пункта ніхто не адмяняў. Ну, а што датычыць адносін да мяне, то яны, вядома, неадназначныя. З боку радыкалаў, якія ёсць у любым грамадска-палітычным руху, у тым ліку і ў нашым, прэсінг адчуваецца. Вось і на апошняй канферэнцыі сойма паставілі, вобразна кажучы, на сцэне пустое вядро і што ёсць сілы білі ў яго нагамі, хто мацней, хто пераверне. Я кажу: дарэмна, хлопцы, надрываецеся, вядро ж пустое, выліта з яго ўсё за гады роздуму, пакут. Пераасэнсавана, перажыта ўсё тое, што засціла вочы многім камуністам, у тым ліку і мне, не давала ўстаць на ўвесь рост, атрэсці павуцінне старых догмаў. Ну а ідэі і планы народнага фронту хіба я не падзяляю, не адстойваю іх? Ці я здрадзіў каму за гады сумеснай працы? Гэта сказаць ні ў кога не павернецца язык. Дык нельга ж, на самай справе, усіх без разбору камуністаў залічваць у касту адвержаных і пракажоных. Адна справа — ні ў чым не вінаватыя радавыя члены партыі, іншая — апаратчыкі, якія баяцца страціць свае пасады, прывілеі, раптам стаць непатрэбнымі і болей таго — бескарыснымі. Вядома, зараз пад градам крытыкі ад сваіх мне было б прасцей выйсці з партыі. Але хто ў ёй застанецца? Адны кансерватары? Дык іх жа і так з кожным днём становіцца ўсё болей. Так і плыве з усіх куткоў настальгія па моцнай руцэ незабыўнага Іосіфа Вісарыёнавіча. Ну, а апынуўшыся ў пераважнай большасці, хіба не схопяцца яны намёртва з процілеглай сілай — БНФ? З усёй адказнасцю заяўляю, што наш ЦК у адносінах да нацыянальнага руху вядзе састарэлую просталінейную палітыку адмаўлення. Такі вось палітычны, нацыянальны нігілізм толькі раздражняе людзей і выклікае алергічную рэакцыю адмаўлення. Як паветра, неабходна нацыянальнае прымірэнне. «Круглы стол» усіх грамадскіх сіл для выратавання народа ад чарнобыльскай катастрофы, стварэння перспектывы для дзяцей, унукаў — вось стрыжань гэтай праграмы пагаднення. Але для гэтага ў ЦК КПБ патрэбны маладыя свежыя сілы.

Падкрэслю, што, застаючыся на сваіх ідэйных пазіцыях, трэба аб'ядноўвацца для галоўнага: умацавання суверэнітэту рэспублікі, пераводу яе на эфектыўныя рыначныя адносіны. Для гэтага патрэбны мазгі ўсіх, тым болей, што прапановы народнага фронту, як мы ўжо казалі, знаходзяць падтрымку ў грамадстве.

Ну а што датычыць адносін Пазняка да журналістаў, ды і наогул да процілеглых палітычных сіл — гэта супярэчлівая справа. У нашага лідэра ёсць памылкі, і мы іх не хаваем, крытыкуем Зянона Станіслававіча. Але, разумееце, яму нялёгка давялося адстойваць шырока прызнаныя сёння планы. І з працы звальнялі за гэта, і кампраметавалі, і спрабавалі арыштаваць. Дайшло да зусім подлых выдумак: адна з газет беспадстаўна заявіла, што сваякі і бацькі Пазняка супрацоўнічалі з фашысцкімі акупантамі. Гэты матыўчык падхапіла другая партыйная газета — пайшло-паехала. Разлік быў вельмі тонкі: у Беларусі, дзе кожная другая сям'я загінула або пацярпела ў вайну, любы чалавек, чый аўтарытэт якім-небудзь чынам запэцканы супрацоўніцтвам з акупантамі, ператвараецца ў палітычны труп. Уяўляеце зараз, чаго нам каштавала абвергнуць гэты шырока растыражаваны паклёп, якую душэўную траўму плёткі нанеслі такому крыштальна чыстаму чалавеку, як Пазняк. Вось таму, можа, і глядзіць ён зараз воўкам на вашага брата, журналіста.

**— Міхась Аляксандравіч, людзі, іншы раз, папракаюць лідэраў народнага фронту Беларусі за тое, што яны імкнуцца развесці людзей па нацыянальных кватэрах, адасобіць адзін ад аднаго, адгарадзіцца плотам, межамі. Хіба гэта не так?**

— А вы ведаеце, гэта звычайна нашы паважаныя ветэраны абураюцца: вось разбрыдаюцца грамадзяне Саюза ССР па нацыянальных кватэрах. Самі яны, на жаль, усё жыццё правялі ў камуналках, у нягодах і нястачы, упарта і безвынікова пераадольваючы іх, і дзяцей сваіх хочуць пакінуць галець. А чалавек павінен мець сваю кватэру, і народ павінен мець сваю зямлю і свой бацькоўскі дом. Калі навядзём парадак у сваёй хаце, як кажуць беларусы, тады можам зірнуць, а што ж у суседа робіцца, у другім пад'ездзе. Ці цэлыя там вокны, ці не разбітыя дзверы? Паверце, мой навуковы і жыццёвы вопыт падказвае: калі ў гэтых нацыянальных кватэрах будзе парадак, то будзе парадак і ва ўсім саюзным доме.

Цяпер усе рвуцца з гэтага агульнага дому, гэтага Саюза, а потым, калі ўсё адцэнтруецца, калі кожны навядзе парадак у сваім доме, няма сумненняў, пойдзем насустрач адзін аднаму. Ды і зараз ужо ідзём, шукаем кантакты, дзелавыя сувязі. Мне ў гэтым плане вельмі сімпатычны наш старшыня Саўміна Вячаслаў Кебіч. Па яго ініцыятыве ва ўмовах, калі распадаюцца, не дзейнічаюць унутрысаюзныя сувязі, нягледзячы на грозныя ўказы прэзідэнта, Беларусь пайшла на прамы дыялог з сярэднеазіяцкімі і закаўказскімі рэспублікамі. Казахстанам, Украінай, Расіяй, Літвой, Латвіяй. З імі падпісаны доўгатэрміновыя дагаворы аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе. Не сумняваюся, што гэтыя пагадненні стануць своеасаблівым буферам, які замартызуе ўдар па эканоміцы рэспублікі ў пераходны перыяд да рынку. Бо нам патрэбна, дапусцім, падтрымка Туркменіі або Малдовы не меней, чым ім наша і г. д.

Дык вось, наш кіраўнік урада, дарэчы, член Бюро ЦК КПБ, чалавек, якога не западозрыш у тым, што ён спавядае ідэі народнага фронту, выступіў літаральна днямі на нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР і вымушаны быў канстатаваць, што калі да 1 студзеня наступнага года саюзны дагавор не стане рэальнасцю, Беларусь павінна ісці ўласным самастойным шляхам. Мець свае банкі, сістэму падаткаў, свае беларускія грошы. І не сумняваюся, што давядзецца ўраду адстойваць поўную палітычную і эканамічную самастойнасць рэспублікі. Бо сама абстаноўка вымушае да гэтага. Літва і Латвія паставілі ўжо на межах свае таможні, вось-вось зробіць гэта Украіна. Мяркуючы па рашучых заявах Барыса Мікалаевіча Ельцына, Расія таксама не мае намеру цярпець «іга» саюзных ведамстваў і будзе ўсяляк адстойваць свой суверэнітэт. Ды інакш і нельга. Глядзіце, што робіцца на той жа граніцы ў Брэсце. Праграма «Час» ужо некалькі разоў паказвала сюжэты, як там па 4—6 месяцаў прастойваюць вагоны з імпартнымі прамысловымі таварамі, харчаваннем толькі з-за нераспарадчасці цэнтральных ведамстваў. У той жа час у Польшчы, на Беласточчыне, дзе жывуць тысячы і тысячы беларусаў, прападае збожжа, бульба, гародніна. Нашы суайчыннікі гатовы за бясцэнак або нават дарма перадаць гэтыя якасныя прадукты ў раёны, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Але аператыўна вырашыць гэтае пытанне немагчыма: трэба яго абавязкова ўзгадніць з Масквой. А там дзесяткі, сотні перашкод — адно ведамства, другое, пятае. Пакуль дагаворваемся, вырашаем — гародніна згніла або яе скармілі жывёле.

Усе гэтыя балячкі і нарывы гнілой адміністрацыйнай сістэмы народны фронт бачыў яшчэ некалькі гадоў таму назад. Ён жа нарадзіўся не на пустым месцы, а на ніве абуджэння нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і сабраў пад сваё крыло цвет беларускай інтэлігенцыі. Акумуляцыя гэтага інтэлекту дазволіла нам пралічыць наперад на два гады варыянты развіцця рэспублікі і ацаніць, узважыць задачы, якія стаяць перад нацыяй.

І толькі ў выніку гэтага аналізу ў сферы эканомікі, напрыклад, мы прапанавалі, побач з дзяржаўнай і калгасна-кааператыўнай уласнасцю, увядзенне прыватнай уласнасці на зямлю, прыватызацыю сродкаў вытворчасці. Вось і на гэтай сесіі рэспубліканскага парламента, апераджаючы Саўмін БССР, які мае яшчэ старыя ўяўленні, наша апазіцыя прапанавала праекты законаў аб банку і аб грамадзянстве БССР. Без нацыянальнага банка, які падначальваецца напрамую Вярхоўнаму Савету рэспублікі, і без незалежных камерцыйных банкаў ва ўмовах рынку, як паказвае вопыт, не можа існаваць ніводная суверэнная дзяржава. Сесія Вярхоўнага Савета БССР большасцю галасоў не прыняла наш праект аб прыватызацыі, продажы зямлі. Хто ж галасаваў супраць? Ды наша партыйна-калгаснае лобі, прадстаўнікі арміі партфеляносцаў. Паглядзіце, што робіцца, гэта ж абсурд! У беларускай вёсцы на 270 тысяч механізатараў — 240 тысяч кіраўнікоў рознага рангу. Такая ж прапорцыя, відаць, і ў Саюзе. Прыходзіць прыватызацыя, і ўся гэтая іерархічная армада начальнікаў ад калгаса да ЦК становіцца непатрэбнай. Нікога не трэба будзе вадзіць за руку, гаварыць, за якую цыцку карову даіць, што і калі сеяць. І калі зараз разгортваецца чарговая атака на народны фронт, то ўпэўнены, што ісці яна будзе менавіта адсюль, ад гэтай вярхоўнай «касты» адміністрацыйнай сістэмы.

І вось тут я вельмі спадзяюся на грамадзянскую мудрасць нашага народа, яго традыцыйную разважлівасць, узаемаразуменне паміж рознымі сіламі. Адбудзецца гэта толькі тады, калі партапарат зменіць стратэгію і тактыку свайго існавання, адчуе сябе часткай народа, а не гэтакай «браніраванай» праслойкай.

Вось чаму я не стамляюся паўтараць: калі мы, беларусы, і тыя людзі, што даўно і нядаўна жывуць на гэтай старажытнай славянскай зямлі, не дагаворымся і не вырашым нашы праблемы, то для чаго мы пачыналі гэтую перабудову?!

**Вёў гутарку Алесь ШАГУН, уласны карэспандэнт штотыднёвіка «Союз» — спецыяльна для «ЛіМа».**

# КІТАЙ: ПРАЦЯГ КАНТАКТАЎ

**Дні культуры Кітайскай Народнай Рэспублікі прайшлі ў Мінску.**

**Адна з сустрэч адбылася ў Доме літаратара. У ёй прынялі ўдзел А. Бажко, А. Капусцін, М. Кругавых, І. Кудраўцаў, У. Паўлаў, Н. Пашкевіч, А. Пісьмянкоў, П. Прануза Л. Прокша, А. Русецкі, Я. Садоўскі, Ю. Свірка, А. Сульянаў, В. Трасцянскі. Кітайскую дэлегацыю ўзначальчваў намеснік старшыні Асацыяцыі драматургаў Кітая Ху Кэ.**



У час сустрэчы з кітайскімі пісьменнікамі ў Доме літаратара. Фота Ул. КРУКА.

# ТРЭЦІ ТЭРМІНАЛАГІЧНЫ... ВЫДАННЕ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Беларуская навуковая тэрміналогія як галіна мовазнаўства склалася параўнальна нядаўна. Першыя крокі па яе падрыхтоўцы былі зроблены ў 1921 годзе ў сувязі з патрэбамі народнай адукацыі. Спецыяльна створаная пры навукова-літаратурным аддзеле Народнага камісарыята асветы Беларусі Навукова-тэрміналагічная камісія за адносна кароткі час падрыхтавала і апублікавала тэрміналогію (у асноўным у аб'ёме патрэб школьнай праграмы) па граматыцы, арыфметыцы, алгебры, батаніцы, геаметрыі, трыганаметрыі і інш. Плённа працавала спецыяльная камісія Інстытута беларускай культуры, якая за 1922 — 1930 гг. падрыхтавала і выдала 24 слоўнікі тэрміналогіі. Аднак у 30-я гады работа па падрыхтоўцы тэрміналогіі была спынена ў сувязі з хваляй рэпрэсій, якія абрынуліся на дзеячаў беларускай нацыянальнай культуры і навукі. Ужо выпрацаваная тэрміналогія па прычыне звужэння функцый беларускай мовы паступова адыходзіла ў пасіўны запас.

Тэрміналагічная работа аднавілася толькі ў 60-я гады пасля стварэння ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР сектара тэрміналогіі. Так, быў падрыхтаваны і ў 1970 годзе апублікаваны «Русско - белорусский словарь общественно-политической терминологии», сабрана і ўпарадкавана картатэка «Русско-белорусского словаря сельскохозяйственной терминологии» і інш.

З 1985 года пачалі выдавацца тэрміналагічныя зборнікі. І вось сёлета выйшаў у свет чарговы, трэці Зборнік беларускай навуковай тэрміналогіі. Ён падрыхтаваны Тэрміналагічнай камісіяй АН БССР і мае на мэце вырашэнне найбольш важных практычных і тэарэтычных задач упарадкавання беларускай тэрміналогіі з розных галін ведаў.

Пытанням упарадкавання і нармалізацыі беларускай навуковай тэрміналогіі прысвечаны артыкулы А. Чапоўскага, П. Сцяцко, А. Лаўшука, Л. Акатавай, А. Прышчэпчык. Усе гэтыя артыкулы маюць важнае тэарэтычнае і практычнае значэнне.

Наступная група артыкулаў прысвечана вывучэнню спецыяльнай тэрміналагічнай лексікі, у кожным з іх змяшчаюцца слоўнікі тэрмінаў спецыяльнага прызначэння, што мае немалаважнае значэнне.

Так, у атрыкуле В. Захарава перакладны руска - беларускі слоўнік тэрмінаў машынабудавання, які налічвае 807 тэрміналагічных адзінак, што складаюць адну агульную паняційную катэгорыю слоў — назвы асоб па прафесіі, занятку ці пасадзе. Гэта катэгорыя лексікі ўтварае вялікую тэматычную групу. Пры ўкладанні слоўніка былі выкарыстаны розныя спецыяльныя тэхнічныя, тлумачальныя і перакладныя слоўнікі, што дазволіла аўтару выканаць неабходны аб'ём работы на высокім прафесійным узроўні.

У артыкуле «Раслінаводства, земляробства, агратэхніка, лугаводства. Садоўніцтва, агародніцтва» (аўтар У. Люшчык) змешчаны руска-беларускі слоўнік сельскагаспадарчых тэрмінаў. Матэрыялам для слоўніка паслужылі навуковыя публікацыі з серыі сельскагаспадарчых навук, моўныя даныя перыядычных выданняў, манаграфій. Пры складанні рэестра выкарыстоўваліся гэтак жа галіновыя слоўнікі, матэрыялы сельскагаспадарчай энцыклапедыі ў шасці тамах. Усё гэта садзейнічала паўнаце ахопу тэрміналагічнай лексікі галіны і дакладнасці яе адлюстравання ў рускай і беларускай мовах.

Артыкул М. Антропава «Беларуская арніталагічная тэрміналогія» прысвечаны арнітафауне Беларусі, паколькі навукова сістэматызаванага спісу тэрміналагічных назваў птушак на беларускай мове ў нас да апошняга часу не было. У 30-я гады Акадэміяй навук БССР была распачата падрыхтоўка Беларускай Савецкай Энцыклапедыі і публікаваліся праекты тэматычных слоўнікаў па многіх навуковых напрамках, але арніталогія ў іх лік не трапіла. Вось чаму ў працах беларускіх арнітолагаў на працягу многіх гадоў назіралася стракатасць у навуковых назвах птушак. Гэта працягвалася ажно да выхаду ў свет «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» (1975 г.) і на яе аснове Кароткай энцыклапедыі «Беларуская ССР» (1979 г.), дзе ўпершыню давалася апісанне ўсяго класа птушак і ўводзілася ў навуковы зварот вялікая колькасць новых тэрмінаў і тэрміналагічных злучэнняў. Гэтыя энцыклапедычныя крыніцы і паслужылі базай для складання аўтарам «Сістэматычнага спіса птушак фауны БССР», які з'яўляецца максімальна поўным і можа быць скарыстаны для апісання любога атрада, сямейства, рода ці віда птушак фауны рэспублікі.

Значную каштоўнасць мае таксама артыкул - слоўнік Н. Вайтовіч «Народныя назвы кветак, траў», у якім даследуецца паходжанне, зоны пашырэння і значэнне спецыяльнай тэрміналагічнай лексікі названай галіны. Народныя назвы кветак і траў сабраны аўтарам у гаворках многіх населеных пунктаў Стаўбцоўскага, Валожынскага, Клецкага і Крупскага раёнаў Мінскай вобласці, Жлобінскага і Веткаўскага раёнаў Гомельскай вобласці і Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. Усяго ўключана ў слоўнік каля 150 моўных тэрміналагічных адзінак, якія падаюцца ў фанетычным запісе сродкамі беларускага літаратурнага пісьма. Такая вялікая колькасць мясцовых народных назваў кветак і траў прадстаўлена ўпершыню.

Рэдакцыйная калегія «Тэрміналагічнага зборніка», яго рэдактары М. Бірыла, А. Жураўскі, змяшчаючы невялікія артыкулы па канкрэтных пытаннях тэрміналогіі розных галін культуры, навукі і працоўнай дзейнасці, больш ці менш завершаныя фрагменты руска-беларускіх тэрміналагічных слоўнічкаў, выказваюць надзею, што яны будуць карысныя ў практычнай рабоце, а таксама з'явяцца прадметам абмеркавання, вынікі якога і асобныя заўвагі будуць публікавацца ў чарговых выпусках зборнікаў. Іх выданне, бясспрэчна, будзе садзейнічаць апрабацыі і ўпарадкаванню цэлых галін і класаў тэрміналагічнай лексікі, выпрацоўцы і ўсталяванню строгіх норм і правілаў яе літаратурнага выкарыстання.

**Аркадзь НАРКЕВІЧ,**
**прафесар БДУ імя У. І. Леніна, доктар філалагічных навук.**

ШТО САВЕЦКУЮ гісторыю можна вывучаць па савецкай літаратуры — рэч вядомая і асаблівага доказу не патрабуе. Ніводзін падручнік не раскажа так пра калектывізацыю, як «Паднятая цаліна» М. Шолахава. А што лепш праілюструе паняцце «партыйнасць літаратуры», як не верш маладога П. Броўкі: «Мы дружна сягоння Кастрычнік вітаем. Кастрычнік вітаем: Ура!»?

Адны аўтары абмяжоўваліся вымушанымі ўступкамі ў выглядзе асобных твораў, другія карміліся непрыкрытай апалагетыкай. Тыя ж, хто вырас пры рэжыме, веру ў лепшае будучае і справядлівасць ладу, упіталі калі не з малаком маці, то з акцябрацкімі і піянерскімі рытуаламі, з усёй сістэмай заідэалагізаванага школьнага выхавання. Калі папракаць за штонебудзь майстроў пяра часоў культу і застою (за выключэннем, вядома, даносаў і да т. п.), то хіба за несвоечасовае нараджэнне. Адыдуць творы разам з часам, у які створаны, ці застануцца ў літаратуры як факт мастацтва, залежала толькі ад таленту.

У Андрэя Макаёнка — засталіся. Не ўсе, зразумела,— лепшыя. Драматургія нават у большай ступені, чым паэзія, падлягала грамадскім устаноўкам і павевам, бо істотна, акрамя ўсяго іншага, залежала ад тэатральнай кан'юнктуры. Гэта адбілася і на п'есах А. Макаёнка. Перачытаем жа, згодна храналогіі, асобныя з яго твораў, паглядзім на іх з сённяшняга дня.

1957 г., «Каб людзі не журыліся» — трэцяя па ліку п'еса драматурга. Дзеянне адбываецца ў лядашчым калгасе, дзе «за тры гады чатырох старшынь з'елі». Якраз прыязджае пяты, Кавальчук. Момант знаёмства былога з будучым і прадстаўлення людзям абыграны, на мой погляд, з бляскам. Кавальчука ў вёсцы ведаюць: ён калісьці як камуніст-дваццаціпяцітысячнік і арганізаваў калгас, а потым пайшоў на павышэнне. Са станоўчасцю галоўнага героя яўны перабор: ну без сучка! Адно сказаць: сам на ранейшую работу папрасіўся, бо засумаваў, трэба разумець, у высокім крэсле. Тут жа заяўлена і супроцьстаянне — на другім полюсе Самасееў (папярэднік) і нехта Гудзееў з райплана. Першы краў, піў, гуляў, што спрадвек робяць усе старшыні, і пасылаў другому, які ўвасабляе сабой раённыя ўлады, то сена, то дровы, то бульбу. Во калі, аказваецца, нараджаліся сучасныя завядзёнкі!

Гудзееў увесь час за нешта прабірае новага старшыню. То ён зводкі па кукурузе не даў, то «абвастрыў адносіны» з калгаснікамі, то з пагалоўем жывёлы па-свойму распарадзіўся... Паглядзім жа, як рэагуе на прыдзіркі Кавальчук.

**КАВАЛЬЧУК.** Глупства ўсё гэта: ваш папяровы ціск.

**ГУДЗЕЕЎ.** Дарэмна, дарэмна. Недаацэньваеш. А ты павінен ведаць, што «сацыялізм—перш за ўсё ўлік». А што такое

**ЧЫТАЧ ДЗЕЛІЦЦА ЎРАЖАННЯМІ**

# «І МЕРЫ ХІСТКАЙ ПАЧУЦЦЁ»

Прачытаўшы год таму назад гэтую маленькую кніжку, я не спяшаўся «падбіць рахунак», хацелася праверыць сябе яшчэ раз. І вось цяпер я перачытаў паэтычны зборнік Алеся Каско «Набліжэнне» з колішнім задавальненнем; больш таго, мне адкрылася тое, чаго раней не заўважыў.

Мяне не здзівіла, што гэтая кніжка нядоўга ляжала на паліцах. Згадзіцеся, мала хто з беларускіх паэтаў мае шчасце ведаць, што людзі купляюць яго кніжкі і наракаюць на малы наклад. На маёй памяці ўмомант быў раскуплены «Макс і Морыц» Вільгельма Буша ў выдатным перакладзе з нямецкай мовы Артура Вольскага. Але ж тут параўноўваць цяжка, бо з дзіцячай літаратурай у нас глыбокі правал і аўтаматычна вялікі попыт; трэба толькі крыху таленту і выдумкі — і бацькі не пройдуць міма.

Але ж вернемся да нашых дарослых сур'ёзных спраў. Так, факт усцешны: у Беларусі раскупілі кніжку беларускамоўнага паэта. І ў мяне, хто хоча напісаць пра яе, вялікая спакуса. Канешне, Багдановіч... Тэмы Камоэнса, Апалінэра... Паралелі з Севяраніным... Але я не пайду па гэтым шляху, бо, на мой погляд, выказвацца пра вершы з навуковай наморшчанасцю ілба — бессэнсоўны занятак. Можа, хіба пра слабыя... Таму я пішу як чытач, як эмпірык.

Прачытаўшы вершы А. Каско, я перажыў яшчэ раз сваё вясковае дзяцінства, справіў памінкі па рэчцы Зальвянцы, стаўшай канавай, пабыў ля родных магіл. Уся родная старонка была мне бачна з вышыні гэтага палёту. Разам з аўтарам давялося мне — не мог не паддацца чарам слоў! — перажыць зноўку роспач ад недасканаласці сябе, свету, згрызотныя сумненні: а ці так жыву?

Думаецца, што наогул вершы цешаць чалавечую душу сваёй рытуальнасцю, асаблівай арганізацыяй слоўнага раду, якая падымае твор да ўзроўню малітвы. Гэта, аднак, толькі паўсправы. Другая ўмова цэльнасці — жывы вобраз, дзеля якога згарэлі, даўшы святло, здавалася б звычайныя словы. Усяго гэтага не будзе, калі пісаць з халодным сэрцам.

У кніжцы Алеся Каско амаль няма вершаў, напісаных «упаўнакала». Ёсць дватры няўдалыя, на мой погляд, вобразы. Напрыклад, у «Атожылках»: «...на іх (далонях) праступаюць жылы атожылкамі ліста», Усё ж гэта зніжэнне вобраза, ці зніжэнне вобразам — губляецца натуральнасць, і рухавая, цёплая чалавечая рука, як той імператар у Пятронія, «гарбузянее» ад параўнання. На шчасце, некалькі не ўспрынятых мною месцаў не сапсавалі агульнага настрою.

А які моцны філасофскі строй у вершах А. Каско пра мову, слова, паэзію! Суперажываючы аўтару, які сцвярджае прынцып «жыць не па хлусні», разумееш, што пра гэта, як пра радзіму, любоў і іншыя вечныя паняцці, можна гаварыць зноў і зноў, можна чытаць яшчэ і яшчэ — было б у тых словах высокае гарэнне і меры хісткай пачуццё.

Як філолаг я атрымаў вялікае задавальненне ад таго, наколькі трапна аўтар падбірае словы і як багата ён мае іх у сваёй скарбонцы. Жанчыны ў вёсцы, спяваючы «Купалінку», «грэюць слоўкі!». Ці на Палессі раней «коней каўтала гразь». Зямля «не любіць пуставаць», «жадае быць жытнёвым полем»... Наогул, падаецца, што дакладнасць і сціслаcць — адна з рысаў аўтарскага стылю.

Перачытваю «Забытыя кнігі»: «Пыл з... кніг страсаем, нібы з паднятых дамавін». Міжволі думаю пра савецкую літаратуру і становіцца горка. Горка і прыкра. Але ж тым радасней наша беларускае Адраджэнне і як знак яго — гэтыя вершы, што ляжаць перада мной.

г. Брэст. **Яўген БЯЛАСІН.**

# ДЗЕЛЯ ПАЗНАННЯ СВЕТУ

Прыгожае афармленне, якаснае паліграфічнае выкананне падштурхнулі мяне набыць кніжку Уладзіміра Мацвеенкі «Загадкі Зайкі-загадайкі», выдадзеную сёлета «Юнацтвам». Шмат радасці было і ў дачкі, калі яна ўбачыла зборнічак. Мастак В. Губараў не проста намаляваў адгадкі да вершаваных загадак, а стварыў цэлыя маляўнічыя сюжэты па пэўнай тэме.

Папрасіўшы пачытаць што-небудзь з

# ДЗЯКУЕМ ЗА ТАЛЕНТ

**Перачытваючы п'есы Андрэя Макаёнка напярэдадні 70-годдзя з дня яго нараджэння**



Андрэй МАКАЁНАК. 1981 год.

Фота Ул. КРУКА.

**ўлік? Зводкі. А ты — «глупства».**

Ніжэй — яшчэ больш рэзка:

**КАВАЛЬЧУК. А я паехаў сюды не для таго, каб падабацца або не падабацца каму-небудзь асабіста.**

А вуснамі Сенькі-заікі аўтар і зусім пасылае начальства «к...» Для таго, мабыць, і заікам зрабіў, каб у пару спыніцца. Па тым часе, згадзіцеся, смела. Нават дзёрзка. Малаверагодна, каб сапраўдным адрасатам падабаліся падобныя рэплікі. Гэтая годнасць, гэтая непалахлівасць—прыкмета адлігі. Скранулася, заскрыгатала, пайшла трэшчынамі цвярдыня таталітарызму. Новы герой заявіў пра сябе ў літаратуры — хоць і адлакіраваны, згодна нядаўнім традыцыям, затое рашучы, здольны на ўчынкі, дэмакратычны.

Нязвыкла, з улікам года напісання п'есы, бачыць і крытыку партыйцаў. Пра таго ж Самасеева гаворыцца, што ад яго «партыі карысці, як ад таго казла — ні шэрсці, ні малака. (...) Яму не партыя трэба, а партбілет». Грамадскае разняволенне і палярызацыя сіл у партыі адлюстраваны ў п'есе досыць яскрава, хаця і занадта прасталінейна.

Усесаюзную вядомасць прынесла Макаёнку «Лявоніха на арбіце» (1961). Сацыяльнай асновай камедыі стала кампанія па змяншэнню прысядзібных участкаў і хатніх гаспадарак. У мэтазгоднасці дзяржаўнай акцыі аўтар, здаецца, не сумняваецца. З каго дружна смяяліся гледачы? З недарэкі Лявона, які запрог сябе і мазалі нажывае не столькі на калгаснай працы, колькі на ўласным агародзе і ў садзе. Лявон, як падалося, па прамой лініі нашчадак Міхала Тварыцкага, толькі з гумарыстычнай афарбоўкай і з папраўкай на час. Дзіўна, што ён увогуле захаваўся да той пары і не страціў прагі рабіць, дбаць, прымнажаць дабро. (Эпізод з крадзяжом сена — відавочнае педаліраванне: во які благі ён, гэты ўласнік!) І што мае Лявон са сваёй працы на падворку? Адныя непрыемнасці. Яму колюць вочы прыкладам жонкі і дачкі, што шчыруюць на ферме, з яго кпяць, з ім нястомна праводзяць «палітбяседы». Ды не збіраецца ён так проста ўзяць ды перавыхавацца! Кажа: «За камунізм вып'ю, а свайго ўчастка не дам! Не маеце права! Я знайду закон у вобласці, калі і там... То я дастукаюся да самой Масквы!» Звернем увагу на два моманты: ужо можна **шукаць праўду**, адстойваць свае правы; трывала ўваходзіць ва ўжытак слова «камунізм» (у п'есе яно гучыць даволі часта).

Лявон піша ў высокія інстанцыі, «шые» сваім крыўдзіцелям «перагіб», пакуль не растлумачыў яму папулярна старшыня райвыканкома, што гэта і не перагіб зусім, а — **лінія.**

Як бачым, аўтар добрасумленна праводзіць партыйныя рашэнні ў жыццё, але ж і героя свайго яму па-чалавечы шкада.

**ЛЯВОН. Што вы за людзі? Ну чаго спяшаецеся? Што вы мяне гоніце? Дайце агледзецца! А то што ні дзень, то ўсё (разгублена) новае... (з абурэннем) новае... (са злосцю) новае!!! Жыву, як на палубе карабля: то туды гайдане, то сюды...**

Дужа дакладна сказана!

Лявон упарціцца, церпіць абразы і выбрыкі жонкі: Лушка аказалася слабым звяном у ланцугу, з яе дапамогай, падобна, і хочуць выцягнуць **кампанію.** Якой жа сімпатычнай яна ўсім падавалася, гэта першая вясковая феміністка! Гары гарам тая гаспадарка! Хай мужык застаецца «рабом каровы, рабом курыцы, рабом лебяды», а Лушка будзе павышаць свой культурны ўзровень ды вучыцца «кіраваць дзяржавай». Ой, Лушка, ведала б ты, як хутка ў вашай сельскай краме, акрамя бярозавага соку, нічога не стане!..

А пакуль што ёю казыраюць, яе падвышаюць (дэпутаткаю зрабілі), да яе жаночай сутнасці апелюе, вычарпаўшы ўсе довады, будучы зяць: маўляў, нельга ж так — з фермы ды на агарод! Цяжка! Хопіць цягнуць жылы з жанчыны!

Ад Міхала патыхае дэмагогіяй. Змагаўся б ён лепей за механізацыю фермы...

Зламаўся Лявон неяк неспадзявана, раптам, без дастатковай псіхалагічнай матывіроўкі. Ні то пайшла ад яго Лушка, ні то проста прыгразіла, што «вакол Еўропы паедзе», ды яшчэ і назойлівая суседка Клава на гарызонце... Адным словам, «ссільнічала» героя аўтарская воля, і вырашае ён нарэшце «змяніць нагу». А не павінен быў, зыходзячы з логікі характару. Так **лінія** дэфармуе паўнакроўны мастацкі тып.

Наступная п'еса — «Зацюканы апостал», адна з лепшых у драматурга — пабудавана на матэрыяле «загніваючага капіталізму». Мусіць, спрыялі гэтаму замежныя паездкі Андрэя Ягоравіча. П'еса шматмерная, глыбокая, нечаканая ў многім — перш за ўсё доляй умоўнасці. Месца дзеяння ў пачатку пазначана так: «Сучасная кватэра накормленага чыноўніка». А каб не было «розначытанняў» і падазрэнняў, перад тэкстам п'есы ў двухтомніку ідзе невялікі ўступ «Ад аўтара». Там для нездагадлівых і падазроных усё растлумачана самым дэманстратыўным чынам і амаль газетнай мовай: «у свеце, дзе пануе капітал», «бесперспектыўнасць заўтрашняга дня», «аб'ектыўны вобраз буржуазнага асяроддзя»...

Не буду настойваць на версіі, што аўтар карыстаецца замежнай атрыбутыкай як шырмай, але і не сумняваюся, што «спісваў» ён сваіх герояў з айчынных, савецкіх татаў, мамаў і дзетак. Асабліва каларытныя тут тата (ён запомніўся ў выкананні Мілаванава) і Сын. Апошні вырас «у баразне паміж мінулым і будучым», дакладней — не вырас, а яшчэ толькі пасеяны. Бытавыя сямейныя дыялогі незаўважна пераходзяць у філасофскія, канкрэтны план ва ўмоўны (вышэйшы пілатаж майстра!). Разам з героямі мы разважаем пра такія паняцці, як свабода, асабістая адказнасць, улада, слава. «Запомніце! Самая вялікая хлусня — гэта хлусня маленькаму чалавеку»,— заяўляе ў адным з маналогаў вундэркінд-палітык. Ён адзіны ў сям'і, не лічачы наіўнай сястры, пакутуе ад хлусні і недасканаласці свету, цытуе класікаў і біблію, сыпле парадоксамі. Як заклінанне гучаць яго звароты — непачутыя — да бацькоў: «Не прымушайце мяне жыць, як вы: з хлуснёй класціся спаць і з хлуснёй уставаць. Я не хачу, як вы!!!».

Крык душы, а на практыцы дробны шантаж і зусім не дзіцячы цынізм. Недзе бачыла я падобных начытаных хлопчыкаў. У сапраўднасці яны не столькі гавораць, колькі дзейнічаюць, і, у адрозненне ад Малыша, галоўкай не стукнуліся. Хэпіэнд па-савецку...

«Таблетку пад язык» (1972) перачытваць было не цікава. У п'есе пераважае, як сказалі б сёння, публіцыстыка.

Ёсць перагукванні і з камедыяй «Каб людзі не журыліся», хоць паміж імі прамежак у 15 гадоў. Тут не прадстаўнік з раёна камандуе, а сам міністр «выбівае» з калгаса тры тоны сенажу, але яго ўжо ніхто нікуды не пасылае. Моладзь паранейшаму просіцца ў горад, любоўныя гісторыі гэтак жа аздабляюць асноўнае дзеянне.

Аднак на адным з персанажаў варта спыніцца асобна. Маю на ўвазе «састарэлага вундэркінда» дзеда Цыбульку, які спрабуе падвесці тэарэтычную базу пад працэс рассяляньвання сялянства за савецкі час. У вялізным маналогу ў фінале камедыйны персанаж сур'ёзна разважае пра любоў да зямлі. «Вот паспрабуй — прапануй любому калгасніку зараз дзесяць, пятнаццаць дзесяцін зямлі. Думаеш, возьме? Нават задарма, за так. Не-е! Дудкі! Зразумеў мужык — не ў зямлі шчасце. Во-о-о! Другі цяпер час. Спосаб жыцця другі. І цэнім мы цяпер іншае — лад, лад наш!» Дзеда Цыбульку «вырошчвала» цэлая плойма селекцыянераў і, вядома, само жыццё. Што заставалася Макаёнку, як не вывесці яго на сцэну? Толькі наўрад ці ўсведамляе аўтар усю заганнасць, згубнасць пазіцыі, укладзенай ім у вусны тутэйшага дзеда Шчукара.

У наступнай п'есе «Святая прастата» («Кашмар») дзед-дзівак становіцца прэзідэнтам. Мабыць, драматургу захацелася «падвысіць» свайго героя, бо малы сацыяльны статус — малы і ўплыў на падзеі. Цікава было б паглядзець, як чалавек з народа кіраваў бы **ў нас**, ды такая метамарфоза пагражала нечаканасцямі. Зноў давялося выкарыстоўваць замежны матэрыял.

Стары — вялікі арыгінал, але больш у сучасным разуменні (нагадаю, што п'еса ствяралася ў эпагей брэжнеўшчыны — 1974 г.): ён неверагодна сумленны. Сышоў з дому, старая баялася, каб рукі на сябе не наклаў, бо меншы сын аблічыў у краме ўдаву на 47 капеек і калеку на 17. У далейшым высвятляецца факт растраты, стары няўмольны: «Саграшыў? Будзь ласкавы — скупі свой грэх», і справа для Івана-Жана пахне турмою.

Зразумела, што стаўшы прэзідэнтам — хаця б і ў сне,— такі максімаліст дабром не скончыць. У «небяспечнай» (па вызначэнні аўтара) камедыі шмат дасціпных і смешных сцэн — па-мастацку пераканаўчых псіхалагічна выверaных, і ўсё б добра, каб не злашчасная **лінія.** Яна вытырквaецца, як тое шыла з мяшка, з трактоўкі капіталістычных намераў: адна ў іх, аказваецца, мара — вайна з нашым перадавым сацыялістычным лагерам. Ваенна-прамысловы комплекс, як звер, ашчэрыў зубы, міністр фінансаў лічыць вайну «нектарам для прамысловасці», а прэзідэнт у фраку і парусінавых портках непахісна стаіць на сваім: «Ніякіх войнаў! Поўнае замірэнне! Мір!». (Колькі там засталося гадоў да Афганістана?).

Малюючы жудасную карціну замежнага «раю», А. Макаёнак здолеў намаляваць нашу сённяшнюю рэчаіснасць, што сведчыць пра яго прарочыя здольнасці.

**ГАСПАДАР. Натоўпы ёсць?**
**ВАЕНМІН. Ёсць.**
**ГАСПАДАР. Лікаванне?**
**ВАЕНМІН. Усеагульнае.**
**ГАСПАДАР. Плакаты? Крыкі? Абурэнне?**
**ВАЕНМІН. Бурнае. Гнеўнае.**
**ГАСПАДАР. Хаос?**
**МІНФІН. Натуральны: усё дагары нагамі.**
**ГАСПАДАР. Магазіны?**
**МІНФІН. Апусцелі.**
**ГАСПАДАР. Цэны?**
**МІНФІН. Растуць з кожнай гадзінай. Бескантрольна.**
**ГАСПАДАР. Тэлебачанне?**
**МІНІСТР ПА ШПІЯНАЖУ. На месцы.**
**ГАСПАДАР (віцэ-прэзідэнту). Выйдзі к народу. Для рэкламы. Абяцай рэформы. Падабайся натоўпу. Пацалуй якога-небудзь дзіцёнка. Вытры насавічком слязу. Стукай у грудзі. Ідзі, друг народа. (...)**

Як кажуць, адзін к аднаму. Бурныя апладысменты. Заслона. Дзякуй Вам, Андрэй Ягоравіч! За мудрасць прыродную і гуманістычны погляд на чалавека, за талент, які дзе пераадолее, дзе абыдзе любую навязаную схему.

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.

---

кніжкі, дачка не спынілася ў сваім «яшчэ», пакуль не перагарнулі мы разам апошнюю старонку. Пасля я самастойна вярнуўся да кнігі. І вось што зразумеў. У. Мацвеенка ведае дзіцячую псіхалогію, падбірае матэрыял, які не вызначаецца асаблівай складанасцю і разам з тым стварае загадку-апавяданне з важкім па сэнсе сюжэтам. У гэтым плане загадкі пісьменніка цалкам адпавядаюць народным загадкам як цудоўнаму жанру народнай творчасці. Тут і іншасказальнасць, і прысутнасць тайны, і яркая вобразнасць.

Першымі прыходзяць да юнага чытача загадкі, прысвечаныя прыродзе. Паэт стварае простыя і арыгінальныя сюжэты-апавяданні,пра поры года, сцяжынкі, мароз, ледакол і г. д. Загадкі У. Мацвеенкі — своеасаблівы ўрок, які вучыць уважлівасці, уменню аналізаваць, параўноўваць. Вось адзін з прыкладаў:

Для Святланы і для Лёдзі
Маці рве на агародзе
Усім знаёмую расліну —
У ёй многа караціну,
— Наце, — кажа, — ешце, дочкі,
Будуць добра бачыць вочкі.

У сваіх паэтычных пошуках Уладзімір Мацвеенка, ствараючы загадкі, прытрымліваецца традыцый, якімі ўзбагацілі нашу літаратуру Васіль Вітка, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін. «Загадкі Зайкі-загадайкі» —своеасаблівая энцыклапедыя, адрасаваная маленькаму чытачу.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

Пухавіцкі р-н.

## «ЖЫВУ Я Ў ПЕРШЫ І АПОШНІ РАЗ...»

Радзіма адна ў чалавека. Тая, што часам называюць «малой». Памяць пра вёску Забалоцце, што на Магілёўшчыне, і пра людзей яе—заўсёды ў сэрцы і ў паэтычным слове Міколы Янчанкі. Але ёсць жа ў чалавека і іншыя любыя мясціны. Адной з такіх мясцін стала для паэта Рагачоўшчына, дзе ён «прапісаны» з 1961 года, калі пачаў працаваць выхавацелем у Гарадзецкай школе-інтэрнаце. Амаль трыццаць гадоў... Не малы тэрмін для чалавечага жыцця. Таму «не паказушнымі» і не выпадковымі здаюцца вершы з раздзела «Дзе Дняпро і Друць сустракаюцца» ў кнізе «Жыцейка-жыта». Вось верш «На Замкавай гары». Гэта месца, мне здаецца, не менш святое для рагачоўцаў, чым Курган Славы.

Травой густою слава дзірванее...
Адна вярба, плакучая вярба
(Ці маці?) слёзы вечныя струменіць.

І зусім натуральны і вельмі прыгожы вобразны пераход да апошніх радкоў:

А ўнізе, між квяцістых берагоў,
Як сімвал чалавечага прызнання
Сівы Дняпро спяшае на спатканне,
Красуня Друць чакае ўжо яго.

У кнізе многа вершаў-роздумаў пра высокія ідэалы і будзённыя клопаты, пра каханне і замілаванасць да блізкіх і родных людзей. І ўсё гэта, як і ў кожнага чалавека, надзеленага паэтычным светаадчуваннем, пададзена вельмі лірычна. Інтымнае «я» паэта раскрываецца перад светам і знаходзіць водгук у сэрцы чытача.

Мне вельмі даспадобы верш «Бярозы сёння, быццам на паказ», з яго рэфрэнам «Жыву я ў першы і апошні раз». Напрыклад:

Не ў першы, не ў апошні раз кахаю,
Жыву я ў першы і апошні раз.

Гэты верш хацелася б тут прывесці цалкам. Але дзе ж ты ўсё добрае змесціш у адным водгуку?

Хібы? Ёсць, канешне, і хібы. Некаторыя вершы прахадныя, пра іх можна сказаць: так сабе. Сярод іх «Ля помніка Смалячкову», «Мір табе». У асобных вершах, здаецца, гладка і роўна ўсё, а душу не кранае, і, значыцца, мэты сваёй паэт не дасягае.

І рэдактар кнігі, і аўтар прагледзелі тое, што лёгка б было паправіць. Скажам, пачаткі вершаў: «Зноў збялеў...», «Зноў пад снегам...», «Зноў расцвілі...», «Зноў гляджу...». Або такія радкі, што не ўпрыгожваюць кнігу: «Сонца дыск медалём чырвоным узнагароджвае горды бор», «Жорнамі крылатымі сонейка плыве». Сам верш, дарэчы, неблагі, але ж гэтыя «жорны-сонейка» разбураюць усё. Чытаеш і ўяўляеш, як каменныя жорны недзе там плывуць...

Не буду доўжыць прыклады такога плана. На шчасце, іх не многа. І не яны вызначаюць асаблівасці кнігі «Жыцейка-жыта». Як на мой погляд, то гэта, мабыць, адна з лепшых кніг Міколы Янчанкі, важная ступень да паэтычнай дасканаласці.

Уладзімір НЕМІЗАНСКІ.

г. Рагачоў.

**Васіль ЗУЁНАК**



## *Вогнішча. Месяц. Вечар...*

З-за баравой хмурынкі выйшаў месяц,
А ўнізе — мой агеньчык, як двайнік.
І ціхі покліч еднасці узнік,
Каб адзіноту нашу перакрэсліць.

Здароў, нябёс асуджаны вандроўнік,
Па лёсе мой закляты пабрацім,—
Давай неварухліва пасядзім
І вып'ем па самнамбулічнай поўні.

Патрэскваюць паленцы сухастою,
Вярэдзячы язычніцкі мой дух.
Сяджу, замкнуты ў гэты светлы круг,
Дзе памяць грэшная і полымя святое.

Перад якім спыніўся я парогам
Тут, на зямлі, на збітых камянях?
Што там, у небе, сведчыць Млечны
Шлях,
Якую абяцае мне дарогу?

Стаіць мой друг, стаіць — не
зварухнецца,
Паглядам жар варушыць у кастры
І, тоячы касмічныя вятры,
Нязбытнай песняй мне насустрач льецца.

Люблю я гэтай музыкі свячэнне,
Я ў гэтых гуках чую цішыню:
Яны ляцяць іскрынкамі агню
І тонуць у адвечнасці вячэрняй.

Мелодыя агортвае шчымліва.
І раптам тайным халадком дыхне,
І нібы перад сконам, ці то ў сне
Усё жыццё перабярэш імкліва...

Мне б у цябе вучыцца, дружа Месяц,
Не траціць час у тлумнай мітусні,—
Няўжо я свой прыход вякамі сніў,
Каб так усё бязмэтна перакрэсліць?

Не веру, хоць не ведаю, якая
Мяне планета прыме ў новы круг...
Касец у небе косіць зорны луг,
І хтосьці ў цемры жаласна гукае...

Гарыць касцёр, а музыка знікае...

●

Не вернеш пурытанскі бляск маркізаў
І пышныя аздобіны палацаў,—
Стагоддзяў дух перавярнуў марксізм,
І час назад не думае вяртацца.

Куды ісці, і колькі, і навошта,—
Распісана да кропкі ў «Капітале».
Шлях вызначаны самым танным
коштам —
Крывёй сцягоў, свінцом, агнём і сталлю!

Лунаюць лозунгі, шумяць над галавою —
І мы ідзём, крычым аб перамозе.
Ідзём! Ідзём! Куды ідзём? — Канвою
Заўжды, як кажуць, з намі па дарозе.

Вастрэй шампура слова ГалоўПУРа,
Каб лёсы, нібы шашлыкі, нанізваць.
Прадвесце: «Бура! Хутка грымне
бура!» —
Да нашых дзён дайшло SOS-рэалізмам.

Хто, краю мой тваё шляхі знявечыў,
Цябе ператварыў у блукуняку?
Бязмоўе і духоўную галечу
Прыкрыць наважыў хто крывавым лакам?

Кляліся ўсёй Зямлі на «Капітале» —
Дайсці да рэвалюцыі сусветнай.
Дайсці! Дайсці!. Дык што ж вы тупа
сталі?!
І азірацца пачалі пры гэтым...

Куды прыйшлі?.. Бязбожжа — дар
бацькоўскі,
Бяспамяцтва — сынам узнагарода.
І п'яны грэшнік на дарозе коўзкай,
Як Бог, што страціў сцежку да народа.

І засявае ворыва Чарнобыль,
Бунтуюць людзі, і маўчаць палацы,
І новы «Капітал» рыхтуе робат,
І час богашукальніцтвам заняцца...

●

Слязамі пісьмы пішам,
Ды не чытаюць іх,
Бо слёзы — клопат лішні
Для мёртвых і жывых.

Бо не даходзяць пісьмы:
Чужэе адрасат,
У забыцці ўтапіўся
Яго жывы пагляд...

Узагрудкі з эпохай
Бяромся, а здаля —
Як быццам хто спалохаў —
Глядзіць на нас зямля.

Пішы, пішы, заложнік,—
Усё заглушыць час.
Адказ — не патрывожыць:
Ніхто не ўчуе нас.

І праклінаем век свой,
Нібыта ён віной
І д'яблу выдаў вексель
З духоўнаю труной.

Нібыта адзіноту
Ён хітра нам прынёс,
Адчужанасці квоту
Спусціў на кожны лёс.

І гутарым сам-насам
Мы з люстрам на стале.
І паміраецца з часам
Нам часу не стае.

●

На беразе лютай свабоды,
Дзе смерцю віры кіпяць,
Спыніцца адной чы народу
І роспачна запытаць:

«Якім жа сябе праклясці,
Якою карай судзіць,
Каб у крывавай хаце
Рабамі свабоды жыць?..»

## *Маленне*

Што будзе зместам часу—
Гармонія? Хаос?
Нябыт? Жыцця акраса,
Што цягне лёсу воз?

І хто нас уратуе —
Цень продкаў? Ці прарок,
Што ісціну святую
Схаваў у п'яны змрок?

Ці д'ябал, што ў руінах
Былой царквы засеў
І статкі душ казліных
На цвінтары пасе?

Ратуй нас, Божа правы,
І ўразуменне дай,
Ад левых як і правых
Уратаваць наш край —

Зямлі куточак белы
(Хоць волі не было) —
Душы прачыстай бераг
І людскасці святло.

Ён белы — значыць вольны
Ад чорных дум і спраў,
Ён чысты, як настольнік,
Што ў гурт сям'ю сабраў.

Спагаднасць і балеснасць,
Гасціннасці парог,
Як слова і як песню,—
Ратуй, калі ты Бог.

Пакінь праменьчык веры,
Каб не чынілі зброд
Жывыя палімеры,
Дзе ўчора жыў народ.

●

Я не хачу пакрыўдзіць Бога,
Але спытаць адно карціць:
Калі прыходзіць перамога
Раней, чым бой,— навошта жыць?

## *Абуджэнне*

Вытайвалі на ўгрэвах палявых
Падснежныя мышыныя тунелі.
Праз плесень прабівалі паплавы
Травінак першых сакавіты вэлюм.

І цёплыя вятры ўсю ноч гулі,
І дрэвы чулі птушак пералёты,
І ціхае пашорхванне галін
Ператваралася ў зялёную лістоту.

## *Водгук вясны*

Як парываліся, як жа імкнуліся! —
Сэрцам насустрач — з былых берагоў...
Вось і спаткаліся — як размінуліся.
І не пазналі адно аднаго...

## *Глінішча*

Адно і засталося ў хмызняку:
Пячоры ды ірвы з вадою талай,
Ды пень ад елкі, што сваю руку
Разлапіў на пагорку шасціпала.

Ды часам буркне цецярук-бабыль,
Але спахопіцца, зірне зляканa вокам:
Ці ж такавішча тут, калі гарбыль
Відзён, бадай, на тры вярсты навокал...

Не зарагоча з ельніку пугач:
«Ха-ха! Хвальбонцы, хахалі, ханыгі!..»
І толькі на выбоінах цягач
Раве, буксуючы, у дождж альбо ў
адлігу.

Апошні вытралёўваецца лес —
Не на вянцы для зрубаў. І наўрад ці
Тут будзе хто браць гліну на замес,
Каб цэглу выпаліць і скласці печ у
хаце...

Даўно ўжо не чутно і ганчароў,
І не звініць іх посуд на базарах,—
Адно на каляінах, нібы кроў,
Пражылкі гліны праступаюць зараз...

Чакае глінішча і ловіць рэдкі дым,
Што іншым часам з вёскі прылятае,
І копішчаў застылыя сляды,
Як лёгкія ў кавернах, уздымае.

Ніхто не едзе і ніхто не йдзе:
Ні печнікоў няма, ні гаршкалепаў.
Ганчарным кругам шмель стары гудзе
Над жоўтым беспрасвеццем кураслепу.

Чакае гліна дотыку майстроў,
Руплівых пальцаў ласку трапяткую,
Як водгулле няздзейсненых кастроў,
Чырвоным полымем пад дзірваном
смуткуе.

Вісіць над глінішчам маўчання страшны
суд,
І дрэмле ў гліне чалавецтва драма,
Бо ёсць здагадка пэўная, што тут
Ляпіў Пан Бог прапрашчура Адама..

НАШЫ СЯБРЫ ад'язджалі ў Ізраіль і запрасілі нас зайсці — развітацца. Мы купілі кветкі і пайшлі да іх. Толькі што перасціх дождж і з парку, паўз які ляжала наша сцежка, плыў пах маладога лісця, неба ачысцілася ўжо ад хмар і толькі дзе-нідзе па яго празрыстым блакіце плылі белыя, як гурбачкі снегу, аблачынкі. Ярка свяціла, мякка грэла майскае сонейка і ўсё гэта раптам здалося такім, што, мусіць, шкода пакідаць перад смерцю. А мы ішлі, як на памінкі.

Кватэра сяброў была пустая ўжо, толькі пры сценах стаялі чамаданы, на падлозе ляжалі падушкі, коўдры — трэба было пераначаваць тут яшчэ адну ноч. Двухгадовая Волечка, унучка нашых сяброў, бегала па пустых пакоях — ёй падабаўся гэты прастор, некуды пазнікалі сталы ды шафы, ложкі ды тумбачкі, за якія чаплялася ды набівала гузы. Няхай набіваюць цяпер гузы іншыя...

Бегала, радавалася хіба адна Волечка. Маці з бацькам пакавалі чамаданы, дзед з бабкаю сустракалі сяброў.

— Прабачце за інтэр'ер,— гаварыў Міша, паказваючы рукою на сваё раскіданае гняздо.— Але заўтра ад'язджаем, усё здалі ў багаж.— Геня, — павярнуўся да жонкі,— трэба зайсці да суседзяў, пазычыць стол ды пару крэслаў... Трэба ж развітацца па-людску...

— Ага, так, так,— разгублена мітусілася па кватэры Геня. Яна быццам нешта шукала і не знаходзіла, хацела нешта ўспомніць і не магла.

Дачка з зяцем схадзілі да суседзяў, прынеслі стол, крэслы.

Божа мой, колькі разоў гасцілі мы ў гэтай кватэры, спраўлялі дні нараджэнняў, сустракалі новыя гады, прыходзілі на святы — Першамай, Кастрычнік. Тады ў прыгожа прыбраным пакоі стаяў прыгожа прыбраны стол, заўсёды багаты закускамі, вінамі. Колькі вялося тут розных размоў, але нікому і ў галаву не прыходзіла, што можа надысці такое вось развітанне.

— Мы едзем за дзецьмі, дзеці едуць, а мы...— нібы апраўдвалася Геня.

— Я ёй кажу — няхай дзеці едуць, а мы застанёмся, куды валачы старыя косці,— гаварыў Міша.

А ён сапраўды пастарэў за гэты год, моцна пастарэў, пасівеў, палысеў, упалі шчокі, вялікі зрабіўся нос.

— Каб я ведала, што мы з табою, як у той казцы, дажывём да глыбокай старасці і памром у адзін дзень, то, можа, і не паехалі б... Але памрэ адзін, а другі застанецца, як палец...

У Геніных развaжаннях мелася логіка і нават Міша не мог нічога ёй на гэта адказаць. Але відаць было, ад'езд даваўся яму з пакутаю, яго валаклі туды, як на вяроўцы.

— Ты разумееш,— гаварыў ён майму мужу,— тут я адчуваў сябе асобаю, творчай асобаю, я нешта зрабіў як аператар, як рэжысёр і яшчэ зрабіў бы, а там буду проста стары дзед з кіёчкам, нікому не патрэбны дзед Мойша!

— І вось так паўгода!— узняла ўадчаі рукі Геня.— Ён вісіць на маіх руках, як кайданы! Нічога не хоча рабіць, не памагае збірацца, толькі ные. Чаго ўжо цяпер ныць, ты ўжо не грамадзянін Савецкага Саюза, ты не маеш ужо права нават атрымаць талоны на мыла, дарогі назад табе ўжо няма, дык чаго па-пустому!

— Яна кажа праўду,— нейк адразу супакоіўся Міша.— Мы ўжо не грамадзяне Савецкага Саюза, з нас узялі семсот рублёў за тое, што пазбавілі грамадзянства... Затое там адразу будзем грамадзянамі.

— А колькі каштавалі візы, а адправіць багаж, а білеты,— лічыла Геня.— На адзін хабар колькі пайшло, у Брэсце і грузчыкі і не грузчыкі адкрыта бяруць, нават такса ёсць — за што колькі даваць. Каб не дача, не было б за што ехаць.

— Разумееш, дачу прадалі,— з горыччу сказаў Міша.— А колькі ж



# ПЛАЧ ПА РАДЗІМЕ

*Лідзія Арабей*

*апавяданне*

я туды сілы паклаў, усё сваімі рукамі... Усё жыццё кватэры дамагаўся, цяпер маю кватэру, і дзеці маюць кватэру, і ўсё трэба пакідаць! Бярозы, ліпкі пакідаць! Кажуць, там пальмы будуць. А начорта мне тыя пальмы!

— Зноў загаласіў!— ускінула голас Геня.

Да яе падбегла Волечка, яна схапіла малую на рукі, прыціснула да сябе. Яна старалася быць мужнаю, бо разумела, што без дзяцей, без унукаў не зможа жыць, старалася быць мужнаю, але на яе вочы не-не дый набягалі слёзы, яна адварочвалася, хавала іх, але не магла схаваць.

Мы не ведалі, што ім казаць, як суцешыць, мы іх не асуджалі, мы ім спачувалі.

Стол, які пазычылі ў суседзяў, накрылі замест абруса цыратаю, паставілі несамавітую закуску — хіба можна параўнаць проста нарэзаныя кавалкі варанай кілбасы, агуркі ды памідоры, шматкі сала з тым цудам кулінарнага мастацтва, якое некалі ўпрыгожвала святочны стол у гэтай кватэры і на якое была здатная Геніна маці — Роза Захараўна. Яна сядзела цяпер за сталом, склаўшы рукі на каленях, не піла, не ела. У яе не пыталіся згоды — ехаць ёй ці не ехаць, яе везлі, як той чамадан, І яна не жалілася, не плакала, прыняла ўсё як непазбежную біду, як прыняла некалі блакаду ў Ленінградзе. Муж памёр у першы год блакады, ёй трэба было ратаваць дзяцей і яна выратавала, цяпер ужо сама не ведае, не памятае — як. Выратавала старэйшую, Геню, і малодшую, Юлю, якая цяпер жыве з сям'ёю ў Ленінградзе і не збіраецца ад'язджаць. І сэрца старой разрываецца паміж дочкамі, паміж унукамі — і ў Ленінградзе ж ёсць унучка. Але яна не можа паехаць да Юлі. Усё жыццё пражыла з Геняю і не можа спавіць сваёю старасцю рукі малодшай дачкі. Няхай ужо Геня і пахавае. І страшна рабілася старой жанчыне, калі ўяўляла недалёкі ўжо свой спачын на краі свету, а магілу ў якой-небудзь пустыні, пад пякучым сонцам, над якою не вырасце ні бярозка, ні елачка...

— Хопіць там трэсці трантамі, ідзіце за стол,— паклікаў Міша дачку і зяця.

Дзеці не спяшаліся, і Міша наліў гарэлкі ў чаркі — сабе, майму мужу. Нам з Геняю плюснуў віна на донцы шклянак.

— Ну што ж,— сказаў мой муж. — Няхай вам будзе там добра.

— Каб не горш, як тут,— дадала я.

Выпілі, пачалі закусваць.

— Мы ўсё разумеем,— загаварыў Міша.— Ніхто нас там не чакае і нідзе няма раю на зямлі, усюды свае праблемы... Можа, дзеці, унукі як і прыжывуцца, а старое дрэва не перасадзіш, карэнне пасячэш... А мае карэнні тут... Магілы маці, бацькі і сястры, дзядоў і прадзедаў... Якога чорта там радзіма? Тут мая радзіма!..

Здаецца, ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але сустрэў адчайны Генін позірк і сціх.

Нарэшце прыйшлі дзеці — Марына і Барыс. Марына — невялічкая, светленькая, зусім не падобная на яўрэйку. Барыс — высокі, цёмнавалосы, дужы, у кожным яго руху адчуваліся сіла, энергія. Мы ведалі, што гэта ён падняў усю сям'ю. Ды без яго ніхто нічога і не зрабіў бы, ні візы не дастаў бы, ні багаж не адправіў бы, білеты не купіў бы... Па адных аўірах колькі пахадзіў...

Міша наліў і зяцю, дачка зусім адмовілася ад віна. Зяць таксама не вялікі выпівоха, толькі прыгубіў гарэлкі. Увогуле ўсю гэту кампанію можна было, мусіць, напаіць адным напарсткам. Налівалі ў чаркі не столькі для піцця, колькі для рытуалу. Апошні раз... Апошні... Аж не верылася, што больш ніколі, ніколі іх не ўбачым, сапраўды праводзілі, як на той свет.

— Едзеце немаведама куды, там жа вайна,— паспачувала я ім усім.— Не так ужо кепска вам тут было, хапала і хлеба, і да хлеба...

— Хлеба, да хлеба,— ускінулася дачка.— Я не хачу, каб мае дзеці елі атруту... Ці ведаем мы, што ядзім? Тут радыяцыя, там нітраты... Чатыры гады пасля Чарнобыля, а не могуць даць насельніцтву дазіметры. Баяцца?

— Мы ж вось ядзім,— уздыхнула я.

— Вы ўжо старыя, вам усё роўна, — з маладою жорсткасцю адрэзала Марына,— а маленькія?— паказала яна на дачку, якая прымасцілася ў яе на каленях і жавала круглячок кілбасы.— Што іх чакае? Радыяцыя распаўзаецца.

— Ды не гэта галоўнае,— уздыхнуў Міша.— Разумееш, стаяла яна ў чарзе,— паказаў ён на жонку.— Адышлася на хвілінку, а вярнулася...

— Чакай, лепей я раскажу,— перабіла яго Геня. — Вось слухайце... Заняла я чаргу за памідорамі, а сама, ну, як у нас бывае, дачакалася апошняга і кажу: я адбягуся на хвілінку... Памідоры, давалі на вуліцы, а я яшчэ ў магазін забегчы хацела, цыбулі купіць, — тлумачыла Геня.— Вяртаюся ў сваю чаргу — і добра ж памятаю цётку, якая за мною займала, такая, на салдата падобная. Станаўлюся перад ёю, а яна мне: «Вы тут не стаялі!» Як не стаяла?— дзіўлюся я,— я ж вас папярэдзіла, на хвілінку ў магазін адбеглася. Не стаяла, і ўсё, і задам, задам мяне адпіхае. А нейкая, што яшчэ далей за мною стаяла, раптам гаворыць такім стомленым галаскам: «І калі яны ўжо ў свой Ізраіль паз'язджаюць, хоць чэргі былі б меншыя...» Раззлавалася я, павярнулася да той цёткі і кажу:— Не хвалюйцеся, наша сям'я цераз тыдзень ад'язджае... Дык яна мне: «Ага, давялі краіну да ручкі, Чарнобыль узарвалі, а цяпер уцякаюць!» Гэта мы давялі краіну да ручкі! Мы Чарнобыль узарвалі! Нехта ж убіў такое той бабе ў галаву, сама ж да такога не дадумалася б!.. Павярнулася я і пайшла, і памідораў тых не захацела... Ішла і плакала ад крыўды...

Усе сціхлі за сталом, хавалі ў сэрцах боль, абразу. Нават Волечка, якая перад гэтым смяялася, прыціхла. Толькі ў другім пакоі кідаў мячык у сценку і лавіў яго старэйшы Генін унук — Дзіма. Ён таксама мала разумеў з таго, што адбываецца, яму ўсё гэта было нават цікава — падарожжа, новая краіна.

— Пагромамі страшаць,— пасля доўгага маўчання сказаў Міша.— Можа, тых пагромаў і не будзе, але калі страшаць... Калі гавораць пра гэта... — Ён дапіў кроплю, якая заставалася ў яго чарцы, наліў яшчэ, сабе, майму мужу. Але сваю чарку адсунуў. З твару яго не сыходзілі крыўда, сум.

— І там раю не будзе,— паўтарыў ён тое, што гаварыў раней.— Тут абзывалі жыдамі, там будуць абзываць рускімі... Тых, хто з Саюза прыязджае, называюць рускімі... А мова... Я ніколі ўжо не вывучу той іўрыт, я і ідыш не ведаю... Зрэшты, якія мы яўрэі... Мовы не ведаем, рэлігіі не спавядаем, былі звычайныя савецкія людзі без роду без племені, усе адной нацыянальнасці, усе нараджэння семнаццатага года. І раптам апамяталіся, хто якой нацыі, хто якой веры... Ды каб жа проста апамяталіся, дык забіваць пачалі — азербайджанцы армян, армяне азербайджанцаў, кіргізы узбекаў, узбекі туркаў...

У Мішавых вачах стаяла туга, глыбокая туга, і я ўпершыню ўбачыла ў іх яўрэйскую тугу, што жыла генетычна, з пакалення ў пакаленне. Кожная клетачка цела, кожная кропля крыві памятала звон разбітых вокнаў, полымя над дахам роднай хаты, бачыла скрываўленыя твары сваіх блізкіх. І забыць гэта было немагчыма, бо не адышло яно ў мінулае, а дажыло да сённяшняга дня. Хіба нельга назваць сённяшнім днём тое, што памятала, перажыло яшчэ жывое пакаленне. А час не зраўняў яшчэ той курганок ,у якім ляжалі забітыя немцамі толькі за тое, што яны яўрэі, Мішавы маці, бацька і сястра. Пад Бабруйскам. Разам з усімі яўрэямі горада. Сам Міша вызваляў Бабруйск, і вызваліў свой горад, але замест роднай хаты знайшоў папялішча, а замест сям'і — брацкі могільнік, на якім тагачасныя ўлады забаранілі ставіць помнік з эпітафіяй, напісанай па-яўрэйску...

Гэта застолле нагадвала-такі памінкі. Мы падоўгу сядзелі моўчкі. Вось і цяпер маўчанне было доўгае і сумнае. Парушыла яго Марына.

— Усе едуць... З нашай кампаніі, з нашых сяброў мы—апошнія. Колькі ўжо засталося тых яўрэяў у краіне, а ўсё роўна мы ва ўсім вінаватыя... Паглядзім, ці будуць тут карацейшыя чэргі... Мне падабаецца думка — недзе вычытала — што «Памяць» — арганізацыя сіяністаў, гэта ж яе члены ўсё робяць, каб умацаваць Ізраіль, каб туды выехала як мага больш яўрэяў... Смешна, але факт... .

Зяць сядзеў хмуры, незадаволены, таксама мала піў і мала еў. Ён чалавек дзелавы і не любіць балбатні, заўтра ад'язджаць, трэба пакаваць чамаданы, узважваць, каб не больш чым па дваццаць кілаграм на чалавека, а старыя разнюніліся, наладжваюць нейкія развітанні, адны сябры адыходзяць, другія прыходзяць. Але стрымліваўся. Бедны Міша, там, куды едзеш, не будзеш ты сам сабе гаспадар, будзеш хадзіць пад камандаю зяця. І дачушка прыме не твой бок, а мужаў. Яшчэ прыгубілі па кроплі, патрошку закусвалі. Геня не дакраналася да яды, сядзела ўсхваляваная, пачырванелая, яшчэ перажывала тую сутычку з жанчынамі.

— Людзі сталі такія жорсткія, злосныя,— загаварыла яна.— У той чарзе хоць бы хто слова сказаў, хоць бы хто заступіўся... І прасвету не відаць, новае пакаленне, можа, будзе яшчэ больш жорсткае. Гэта ж у той чарзе пры мацярках дзеці стаялі, яны ж усё чулі і вучыліся.

Геня не адкрывала ніякай нам навіны, мы і самі ўсё бачылі, кожны дзень натыкаліся на жорсткасць, злосць. У тралейбусе ці ў метро пасадзіць маці каля сябе хлопца гадоў трынаццаць, побач будзе стаяць стары чалавек, але ні тая маці хлопцу не скажа, каб месца саступіў старому, ні сам хлопец не падумае. А колькі сварак у магазінах, у чэргах. Гэта ж трэба, ва універмагу пакалечылі жанчыну, рвануў натоўп да прылаўка, паваліў кабету і прабег па ёй, рукі-ногі паламалі жанчыне, у бальніцу завезлі. Страх божы. Але нельга жыць і без спадзявання.

— А можа, пераменіцца, палепшае і ў нас, можа, варта было пачакаць?— не вельмі ўпэўнена азвалася я.

Зяць, які дасюль маўчаў, ускінуў на мяне нядобры позірк.

— Думаю, што ваша пакаленне гэтага добрага не дачакаецца... Нават на далёкім гарызонце не відаць... Ваша партыя на з'ездах ратуе не краіну, а сябе, свае прывілеі... І яшчэ доўга не выпусціць улады...

Міша спалохана замахаў рукамі:

— Цішэй, цішэй, што ты гаворыш!

— А што мне цішэй!— яшчэ больш узвысіў голас зяць.— Гэта вы ўсе сядзелі, як мышы пад венікам, слова сказаць баяліся. І не будзе тут лепш, а будзе горш, бо ад'язджаюць не толькі яўрэі, а і немцы, армяне, а колькі выехала рускіх... За мяжу сплываюць мазгі, энергія, таленты.

— Цішэй, цішэй,— прасіў Міша.

— А я магу ўжо на ўвесь голас! Мне ўжо нічога не зробяць, я заўтра ад'язджаю!— гарачыўся зяць.

— А, што ўжо цішэй, грамчэй,— усміхнуўся мой муж.— Цяпер усе ўжо гавораць, што хочуць, толку толькі ні на грош. Але і за гэта дзякуй, што не затыкаюць раты.

— Яшчэ заткнуць, пачакайце,— прарочыла Геня.

Зазваніў тэлефон, па гуку было чуваць, што міжгародні. Зяць падняўся, пайшоў у другі пакой, дзе стаяў апарат. Падняў трубку, гукнуў адтуль:

— Юля звоніць!

Роза Захараўна і Геня падхапіліся, пабеглі да тэлефона. Мы чулі, як гаварыла з дачкою Роза Захараўна, як надрыўна крычала ў трубку:

— Дачушка!.. Заўтра едзем, заўтра... Дзе будзем жыць? Не ведаем... Я нічога не ведаю, нічога не ведаю... Напішам, напішам... Дачушка, а як Марачка? Добра ўсё? Дачушка... Цалую, цалую вас усіх!..

Трубку падхапіла Геня, і яе размова была бесталковая, на адным хваляванні, яна развітвалася з сястрою — ці надоўга, ці назаўсёды — як захоча лёс.

Узяўшы на рукі дачушку, да тэлефона пайшла і Марына, за сталом засталіся толькі мы і Міша, мабыць, і яму хацелася пайсці, развітацца з жончынай сястрой, ды няёмка было пакідаць нас адных за сталом. А мы міжволі слухалі тую развітальную размову, міжволі былі яе сведкамі.

Рабілася ясна, што нашым сябрам ужо не да гасцей, што свой вялікі клопат, турбота засланялі ад іх тое, што заставалася тут, што надыходзіць, наступае на іх невядомасць і страх перад ёю засціла мінулае, наступае на іх чорнаю зданню.

Мы падняліся. Між тым скончылася і размова па тэлефоне. Геня з Мішам, Роза Захараўна і мы спыніліся ў калідорчыку. Надышла хвіліна развітання. Геня абняла мяне і раптам заплакала. Яна заплакала ўголас, гарачыя слёзы паплылі па яе шчоках, заліваючы і мой твар, да якога яна прытулілася. І я не вытрывала, заплакала. Мы плакалі, абняўшыся, плакалі і Міша і мой муж. Я чула Мішавы рыданні і незнаёмыя мне, як дзіцячыя, усхліпы майго мужа. Загаласіла і Роза Захараўна. Можа, яна плакала і раней, яшчэ гаворачы з дачкою па тэлефоне, але тады мы не чулі яе плачу, а цяпер загаласіла і старая жанчына. З пакоя выбегла малая Волечка, убачыла, што ўсе плачуць, і сама заплакала на ўвесь голас.

Плакалі ўсе... Плакалі не па нас... Не таму, што развіталіся з намі назаўсёды. Плакалі ад страху перад невядомым, што на іх насоўвалася, плакалі па роднай зямлі, плакалі па радзіме.

# ТЭМА З ВАРЫЯЦЫЯМІ

**Чатыры партрэты ў маналогах герояў і адступленнях аўтара**

Апошнія некалькі сезонаў у Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР надзіва багатыя дэбютамі, новымі акцёрскімі работамі, упершыню выкананымі партыямі. Гэта не прыхамаць, а жорсткая неабходнасць — і творчая, і вытворчая, выкліканая інтэнсіўнай зменай пакаленняў.

— Без прытоку новых сіл, новых выканаўцаў мы проста задыхнёмся, перастанем існаваць,— лічыць галоўны балетмайстар тэатра В. Елізар'еў.— Без перабольшвання магу сказаць: для моладзі цяпер робіцца ўсё магчымае.

Сапраўды, артысты, якія восем-дзесяць гадоў назад лічыліся ці не пачаткоўцамі, рабілі толькі першыя крокі да значных вобразаў, сёння — на авансцэне, сёння — майстры, прызнаныя ў краіне і за яе межамі. Гэта Інэса Душкевіч, Таццяна Шаметавец, Юзаф Раўкуць, Уладзімір Іваноў, Таццяна Яршова, Натэла Дадзішкіліяні. Я свядома не буду закранаць новыя акцёрскія работы кожнага. Кожны з іх сталы, спрактыкаваны артыст, і гаворка пра творчыя здабыткі павінна быць асобнай, падрабязнай.

Спынюся на іменах, новых для лімаўскага чытача, на работах акцёраў, якія танцуюць параўнаўча нядаўна ці чый творчы ўзлёт прыйшоўся на апошнія гады. Гэта Алег Карзянкоў, зусім нядаўна адзначаны званнем заслужанага артыста рэспублікі, Аляксандр Фурман, Святлана Раманава, Кацярына Ядлоўская. Я не бяруся катэгарычна сцвярджаць, што памянёныя артысты ўвасабляюць рысы і якасці найноўшай балетнай генерацыі, хаця такая думка іншым разам аўтара наведвала. У дадзеным выпадку мая задача прасцей. Новыя выканаўцы цэнтральных і сольных партый, новыя прозвішчы ў праграмках спектакляў натуральна выклікаюць цікавасць: хто ён, гэты артыст, у каго вучыўся, з якімі педагогамі працуе, якія партыі выконвае яшчэ, якія мастацкія прынцыпы спавядае, што ўласціва яго творчай індывідуальнасці, ды шмат іншага.



К. ЯДЛОЎСКАЯ — фея Бэзу.



С. РАМАНАВА — прынцэса Аўрора.

Таму — чатыры невялічкія партрэты ў маналогах герояў і аўтарскіх адступленнях.

●

...Прозвішча гэтае аматарам балета добра знаёмае. Здаецца, зусім нядаўна на сцэне тэатра выступала народная артыстка БССР Аляўціна Карзянкова. Выконвала многія вядучыя партыі ў беларускіх балетах, танцавала Лаўрэнсію, Папялушку, Джульету, Раймонду, Фрыгію, Медору, Жызэль. Сёння на харэаграфічнай сцэне танцуе яе сын — Алег Карзянкоў.

Не будзе перабольшваннем назваць гэтага артыста сапраўднай знаходкай для тэатра. Зараз ён упэўнена займае становішча аднаго з вядучых танцоўшчыкаў трупы. Усяго за пяць гадоў А. Карзянкоў паспеў выканаць больш як палову цэнтральных партый у рэпертуары! Гэта Сын у «Крылах памяці» і Пётр у «Прывале кавалерыі», рымскі военачальнік Крас у «Спартаку», Іван у «Альпійскай баладзе» і Тарэра ў «Кармэн-сюіце», Юнак у «Вясне свяшчэннай» і Базіль у «Дон Кіхоце», Рамэа і Тыбальд у вядомым пракоф'еўскім балеце, Прынц у «Шчаўкунчыку» і Дэзірэ ў «Спячай красуні», Салор у «Ценях». Зайздросная творчая актыўнасць, здзіўляючая імклівасць набору вышыні! Што зробіш — старт вырашае вельмі многае ў далейшай біяграфіі. Як спрынтэры, артысты балета не маюць магчымасці працаваць няспешна.

Згадваю свае глядацкія ўражанні ад работ маладога танцоўшчыка...

Магутная стыхія, дынамізм пластычных форм прывабліваді ў танцы Карзянкова — Юнака ў «Вальпургіевай ночы». У партыі Базіля (новая рэдакцыя «Дон Кіхота») артыст выдатна праводзіў танцавальна-ігравыя сцэны. Выразны жэст, міміка — усё працавала на вобраз. Водбліскі тэмпераменту героя прымушалі інакш успрымаць і галоўную гераіню: пэўная стрыманасць Кітры — Т. Яршовай пачынала зіхацець ярчэйшымі фарбамі.

Крыху нечаканым паўстаў у выкананні А. Карзянкова прынц Дэзірэ. Прыгожы, крыху ганарысты з надакучлівымі прыдворнымі дамамі, ён нецярплівы ў пластычных дыялогах з феяй Бэзу, парывісты ў танцавальных сцэнах з Аўрорай.

Заўсёды цікава параўноўваць розныя склады выканаўцаў у адным і тым жа спектаклі, сачыць за тым, як адметныя акцёрскія індывідуальнасці змяняюць сэнсавыя акцэнты харэаграфічнага твора. Так было і ў «Рамэа і Джульеце» (харэаграфія В. Елізар'ева), дзе партыі галоўных герояў выконваюць або І. Душкевіч і У. Іваноў, або Н. Дадзішкіліяні і А. Карзянкоў. Калі ў першым спектаклі цэнтрам глядацкай увагі рабілася ўсё ж Джульета — Душкевіч, чыя мужнасць і духоўная нязломнасць перадаваліся герою У. Іванова, дык у другім — імпульсы дзейнасці, учынкаў, духоўнага супрацьстаяння выходзілі пераважна ад Рамэа — Карзянкова, падкрэсліваючы пяшчотную безабароннасць гераіні Н. Дадзішкіліяні, далікатную ўзвышанасць яе ўнутранага свету.

У кожнага артыста ёсць пэўная сфера — пластычная, эмацыянальная, псіхалагічная, яму найбольш блізкая. Размова ідзе не пра амплуа, а пра тое, якія партыі найбольш арганічныя для танцоўшчыка. Адпаведнасць ролі і індывідуальнасці артыста, яго чалавечага характару і таго псіхалагічнага тыпу, які ўвасоблены ў яго героі, заўсёды ўзбагачае ролю, акцёрскія фарбы вобраза, з'яўляецца зарукай поспеху.

Пластычная экспрэсія, гарачы тэмперамент, яскрава выяўленая характарнасць надзвычай пасуюць індывідуальнасці А. Карзянкова. Ягоны герой — зусім не рамантык, не летуценнік, настроены ўзвышана-лірычна. Гэта натура дзейсная, актыўная, імпульсіўная. Таму невыпадкова лепшыя, на маю думку, партыі Алега — гэта Крас, Тарэра, Базіль, Тыбальд.

Артыста я знайшла ў адным з вялікіх залаў тэатра, дзе заканчвалася рэпетыцыя. Алег Карзянкоў і Таццяна Яршова рыхтаваліся да спектакля «Шчаўкунчык», які меў адбыцца праз некалькі дзён, паўтаралі найбольш складаныя «па» і падтрымкі з дуэта галоўных герояў — Машы і Прынца ў другой дзеі.

Алег выглядае крыху стомлена. У жыцці ён мала падобны да сваіх яркіх, эмацыянальных, тэмпераментных герояў.

**— Я бачыў на сцэне многіх танцоўшчыкаў нашага тэатра. І не толькі з таго пакалення, якое нядаўна пайшло са сцэны, але і тых, хто танцаваў у спектаклях яшчэ разам з маці. Таму лічу тэатр сваім домам, дзе я гадаваўся, выхоўваўся.**

**Зразумець, што такое сапраўдны мужчынскі танец—моцны, дынамічны, насычаны тэхнікай,—мне дапамог педагог у вучылішчы заслужаны артыст рэспублікі Леанід Чахоўскі. Я вельмі многім яму абавязаны. Сваім найпершым педагогам, вядома, лічу маці. Не толькі таму, што займаўся ў яе ў малодшых класах вучылішча. Яна— мой, так сказаць, пастаянны няштатны педагог-рэпетытар. Глядзіць спектаклі, потым дэталёва разбірае, аналізуе. Часам мы прыходзім у тэатр у выхадны дзень альбо калі рэпетыцыйная зала свабодная і займаемся па-за планам. Усё гэта і дапамагае мне даволі хутка засвойваць партыі. Сёння для мяне як артыста тэхнічных прабрем не існуе.**

**Вядома, заўсёды цікава не проста тэхніку ўласную дэманстраваць, а намаляваць яркі характар, стварыць вобраз. І чым больш спектакляў танцуеш, тым лепш разумееш свайго героя. Калі ўспамінаю свае партыі, дык ні пра адну не магу сказаць, што яна давалася лёгка, проста, сама па сабе.**

Адным з найбольшых акцёрскіх дасягненняў А. Карзянкова падаецца мне партыя Тыбальда, станцаваная ім у балеце «Рамэа і Джульета». Станцаваная з сапраўдным бляскам, псіхалагічнай выверанасцю, з размахам, вартым Шэкспіра. Нездарма гэтая роля адзначана дыпломам СТД БССР у ліку лепшых акцёрскіх работ мінулага сезона.

**— Сярод маіх герояў, магчыма, больш адмоўных. Сам гэты факт мяне не турбуе. Памятаю, у час гастроляў нашай трупы ў Англіі крытыка пісала, што адмоўныя героі нам цікавей, чым станоўчыя. Думаю, таму, што яны больш выразныя, шматфарбныя.**

**Тыбальд—адна з дарагіх для мяне партый. Магчыма, таму, што час рэпетыцый «Рамэа...» час стварэння спектакля ўсім выканаўцам галоўных партый— і І. Душкевіч, і У. Іванову, і А. Фурману запомніўся як час надзвычай цікавай творчай працы, пошуку, знаходак, агульнага ўздыму, калі пастаноўшчык В. М. Елізар'еў і ўсе мы былі аднадумцамі.**

**Я не ўспрымаю свайго Тыбальда як увасабленне варожасці, суцэльнага зла. Проста ён лідэр, хоча сцвердзіць сябе, дзе ён — там заўсёды натоўп, людзі. Гэта было зыходным у маім роздуме над вобразам.**

...Чорныя кучары абрамляюць высакамерны твар з затоена-помслівай усмешкай. Раўніва і падазрона ўзіраецца гэты Тыбальд у стракаты натоўп веронцаў, у твары людзей навокал — Джульеты, яе бацькоў, Парыса, Рамэа, Меркуцыа. Ці ўсё навокал ідзе так, як павінна, як заведзена адвеку, аднойчы і назаўсёды? Ваяўнічая агрэсія героя А. Карзянкова народжана абражаным самалюбствам, гатоўнасцю штохвілінна даказваць усім, што ён самы прыгожы, самы дужы, самы смелы. А, можа, падсвядомым разуменнем сваёй духоўнай непаўнацэннасці, уласнай адасобленасці ад сапраўднага сяброўства, кахання, ад жывых і высакародных памкненняў чалавечай душы?..

●

Прыгожыя пявучыя лініі пластыкі, выдатныя балетныя дадзеныя Святланы Раманавай звярталі на сябе ўвагу нават у першых яе сольных партыях. Імі былі адзінаццаты і сёмы вальсы ў «Шапэніяне», партыя адной з зорак рамантычнага балета ў «Па-дэ-катры», Мерсэдэс і Уладарка дрыяд у «Дон Кіхоце». Паступова прыйшлі вядучыя ролі — фея Бэзу і Аўрора ў «Спячай красуні», Зарэма ў «Бахчысарайскім фантане», Адэта-Адылія ў «Лебядзіным возеры», Нікія ў «Ценях».

Мяркую, найбольшы поспех чакае артыстку ў партыях тэхнічна складаных, віртуозных, у ролях гераінь, чыё светаўспрыманне цэласнае, аптымістычнае. Такая яе Аўрора.

Думаю, невыпадкова з далёкай замежнай краіны кіраўніцтву балетнай трупы пазваніла пастаноўшчык «Спячай красуні» на мінскай сцэне Ірына Калпакова, якая не магла прысутнічаць на прэм'еры, і папрасіла, каб у першым спектаклі Аўрору танцавала менавіта Святлана Раманава. Густу Калпаковай нельга не давяраць.

Для маладой балерыны партыя прынцэсы Аўроры сёння найбольш любімая, псіхалагічна блізкая. Танец Раманавай у «Спячай красуні», здаецца, выпраменьвае пяшчоту, ласкавае святло. Другая выканаўца, Т. Яршова — балерына больш вопытная, і, магчыма, больш упэўнена трымалася на сцэне. Але ў С. Раманавай былі свае перавагі — шчырасць, абаянне непасрэднасці, трапятлівасць пачуццяў. Маладое хваляванне, з якім артыстка выходзіла на сцэну, блізкае пачуццям Аўроры на яе першым балі. Таму, відаць, лепш за ўсё атрымалася ў яе першая дзея балета, нягледзячы на тое, што яна найбольш складаная тэхнічна. Пасля першай варыяцыі перад знакамітым адажыо з чатырма кавалерамі ў Раманавай ёсць псіхалагічна тонка і выразна выкананая сцэна, калі, засаромеўшыся, нібы дзяўчынка, такіх прадстаўнічых жаніхоў, яе Аўрора імкнецца ці не збегчы, схавацца за спіны бацькоў, ды, схамянуўшыся — прыдворныя вакол! — прымушае сябе вярнуцца...

Зразумела, прэм'ерай праца над партыяй не заканчваецца, а з яе, па сутнасці, усур'ёз пачынаецца. Тым больш, што Аўрора — гэта такая партыя, над якой нават прызнаныя светам балерыны працуюць усё творчае жыццё.

**— Цэнтральную партыю ў «Спячай красуні» мне пашчасціла рэпеціраваць з самой І. Калпаковай, пастаноўшчыкам спектакля ў Мінску,— расказвае Святлана.—«Жывую» Калпакову—Аўрору я на сцэне, на жаль, не бачыла. Лічыцца, што гэта адна з лепшых яе роляў. Глядзела спектакль з ёю ў відэазапісе. Дарэчы, некаторыя рэпетыцыі Ірыны Аляксандраўны, асабліва там, дзе яна паказвае, як трэба выконваць тую ці іншую сцэну, мы знялі на відэаплёнку. Гэта вельмі дапамагае ў рабоце.**

**А колькі ў Калпаковай цярплівасці! Яна рэпеціравала адразу з чатырма выканаўцамі партыі Аўроры. Як сапраўдны майстра, імкнулася столькі перадаць нам, што маладыя артысты нават не заўсёды маглі ўсё засвоіць.**

**Так атрымалася, што галоўную партыю ў «Спячай красуні» я станцавала крыху раней за прэм'еру. Валянцін Мікалаевіч Елізар'еў прапанаваў мне: «Хочаш з'ездзіць у Вільнюс, станцаваць у «Спячай...» фею Бэзу?» Вядома, згадзілася. Здарылася так, што выканаўца галоўнай партыі літоўская артыстка Ілона Валекайтэ захварэла. Адмяніць спектакль нельга: на ім павінен быў прысутнічаць англійскі імпрэсарыо. Выканаць партыю Аўроры папрасілі мяне. Дэзірэ танцаваў саліст Ленінградскага Кіраўскага тэатра Фарух Рузіматаў. Толькі потым была прэм'ера ў Мінску..**

Наша гаворка са Святланай адбываецца ў грымёрнай, спрэс завешанай маляўнічымі балетнымі афішамі. Паміж абавязковым ранішнім «урокам» і рэпетыцыяй «Лебядзінага возера», у якой яна была занята.



А. КАРЗЯНКОЎ — Рамэа.

заставалася крыху вольнага часу. Пакуль размаўлялі, балерына працавала, як старанная швачка, абшывала тоўстымі ніткамі носікі сваіх атласных пуантаў — для большай трываласці.

**— Як прыйшла ў балет? — перапытвае Святлана. — У нашай сям'і ніхто не меў дачынення да прафесійнага мастацтва. Бацька працаваў на Яраслаўскім маторным заводзе, маці — у Доме мадэляў. У дзяцінстве я ў самадзейнасці танцавала. Мая педагог адвезла мяне ў Маскву паступаць у харэаграфічнае вучылішча. Тут былі створаны ўсе ўмовы для вучобы, для творчага развіцця — прасторныя класы, залы для рэпетыцый, свая сцэна. У старэйшых класах я вучылася ў вядомай артысткі і педагога, дырэктара вучылішча Соф'і Мікалаеўны Галоўкінай. Пачынаючы з трэцяга класа, мы ўдзельнічалі ў спектаклях Вялікага тэатра — «Марная перасцярога», «Капелія». Я ператанцавала ў іх мноства партый — ад эпізадычных да сольных.**

**Валянцін Мікалаевіч Елізар'еў прысутнічаў на нашым выпускным спектаклі і запрасіў мяне ў Беларускі тэатр. Былі запрашэнні з Адэсы, Кішынёва, але я выбрала Мінск. Першы сезон у тэатры ў мяне прайшоў амаль што марна, дарэмна. Можа, таму, што на дзяржэкзамене ў харэаграфічным вучылішчы Ю. Грыгаровіч мне «выдатна» паставіў, я думала, што адразу буду сольныя партыі выконваць, а тут кардэбалет...**

**У Маскве я выхоўвалася на так званай «блакітнай» класіцы. Спектаклі сучаснай харэаграфіі, з якімі пазнаёмілася ў Мінску, здзівілі. Калі я глядзела асобныя сцэны ў час рэпетыцый, мне яны, прызнаюся шчыра, не вельмі падабаліся. А ўбачанае з залы, у дэкарацыях і касцюмах, уражвала. Не адразу я зразумела, колькі партыі ў елізар'еўскіх спектаклях даюць выканаўцу ў сэнсе эмацыянальнага зараду, пластычнай раскаванасці.**

**Крыху акрыяла я, калі ў 1985 годзе з Пермі пераехала ў Мінск і пачала працаваць у тэатры заслужаная артыстка РСФСР Ніна Мікалаеўна Дзячэнка. Яна пачала працаваць са мной як педагог-рэпетытар. З ёй падрыхтаваны ўсе мае партыі.**

**О, я бачу, вы і маім мужам цікавіцеся, — усміхнулася Святлана, выпадкова ўбачыўшы ў маім блакноце загадзя падрыхтаваныя пытанні Алегу Карзянкову. — Калі ў сям'і агульныя творчыя інтарэсы, гэта заўсёды падштурхоўвае, прымушае больш працаваць над сабой.**

**Мы разам тры гады, але не імкнёмся абавязкова танцаваць у дуэце. Муж выконвае больш партый у сучасных спектаклях, я — у класічных. У мяне ёсць свой партнёр, Алег танцуе з рознымі балерынамі.**

**У яго сям'і ўсе апантаныя тэатрам. Маці Алега не прапускае ніводнага з нашых спектакляў, усё здымае на відэаплёнку. А потым — «пракручваем», ды не па адным разе. Ідзе дэталёвы аналіз, заўвагі. Такі кантроль дае магчымасць убачыць сябе збоку, заўважыць хібы і недакладнасці ў выкананні.**

**Мне падабаюцца спектаклі, у якіх можна выявіць свае пачуцці, эмоцыі, свой унутраны свет. Магчыма, таму ў нашай трупе я заўсёды вылучаю для сябе Інэсу Душкевіч, балерыну эмацыянальную, змястоўную. Лічу яе вялікай, не палічыце перабольшваннем, геніяльнай артысткай і імкнуся заўсёды ў яе вучыцца. А наогул хочацца танцаваць як мага больш, паспрабаваць сябе ў розных партыях і розных спектаклях.**

●

Аляксандр Фурман належыць да танцоўшчыкаў, чые здольнасці і чый талент раскрываюцца паступова, ад сезона да сезона, калі як быццам і нетаропка, але ўпэўнена набірае артыст творчую вышыню. Сёння ён выконвае шмат партый, важкіх у агульнай харэаграфічнай драматургіі спектакля. Гэта велічны Бог у «Стварэнні свету», каранаваны павук Фландрыі Філіп у «Цілі Уленшпігелі», Сын у «Крылах памяці», недарэка-жаніх Гамаш у новай рэдакцыі «Дон Кіхота», Драсельмеер у «Шчаўкунчыку», граф Вішанька і вынаходлівы Чыпаліна, галоўны герой аднайменнага балета.

Гэтага артыста я адкрыла для сябе ў спектаклі «Рамэа і Джульета», дзе ён выконваў партыю Меркуцыа. Тая роля ўразіла абсалютнай свабодай сцэнічнага існавання, псіхалагічнай напоўненасцю танца. Меркуцыа — чалавек эпохі Адраджэння, паэт, насмешлівы, вясёлы, адкрыты навакольнаму свету. І гэта духоўна пайдноўвае яго з Рамэа, Джульетай. Як асоба ён супрацьстаіць варожасці і змрочнасці кланаў Мантэкі і Капулеці. Менавіта добразычлівасць Меркуцыа, яго блазнёрскія жарцікі і кпіны выклікаюць такую азлобленасць Тыбальда.

Выкананне А. Фурманам партыі запомнілася пластычнай экспрэсіяй у паядынках, сцэнах, насычаных дынамікай, імклівымі вярчэннямі, скачкамі. Запомніўся і перадсмяротны маналог героя, калі пластыка і міміка яскрава адлюстроўваюць барацьбу жыцця і смерці. Знямажаны, Меркуцыа падае, але намаганнем волі прымушае сябе ўзняцца, усміхнуцца. Ён так і памірае, з усмешкай на вуснах, нібы чарговы жарцік строіць...

**— Гэтая роля — этапная для мяне, удалая ў многіх адносінах, — гаворыць Аляксандр. — Меркуцыа — адна з маіх любімых партый. Працэс стварэння спектакля патрабаваў ад усіх выканаўцаў шмат сіл, энергіі, не толькі фізічнай, але і эмацыянальнай, разумовай. Патрабаваў немалой унутранай работы.**

**Музыку С. Пракоф'ева наогул танцаваць цяжка. Да гэтых рытмаў, нечаканай, нязвыклай мелодыкі і гармоніі трэба прызвычаіцца. У працы над вобразам шэкспіраўскага героя мне шмат дапамагала рэпетытар Дзіна Маркаўна Браўдэ. Найбольш складаныя варыяцыі Меркуцыа мы з ёй разбіралі літаральна па тактах.**

**Наогул, танцу я пачаў вучыцца параўнаўча позна — у 13 гадоў паступіў на народнае аддзяленне Мінскага харэаграфічнага вучылішча. Магчыма, тут гены «спрацавалі». Бо бацькі мае танцавалі ў Дзяржаўным народным хоры. Яны былі супраць таго, каб я быў артыстам. Але ж лёс не выбіраюць...**

**Калі ў 1981 годзе быў прыняты ў трупу тэатра, мне спатрэбілася яшчэ два гады напружанай працы, каб дасягнуць агульнага ўзроўню ў сэнсе тэхнікі: на народным аддзяленні няма многіх дысцыплін, якія вывучаюць будучыя артысты балета.**

Тут мушу перапыніць свайго субяседніка. Калі бачыш А. Фурмана ў партыі Блакітнай птушкі ў «Спячай красуні», бачыш яго паветраныя, палётныя скачкі, якія, здаецца, не патрабуюць ад артыста ніякіх намаганняў, бачыш карункавую вытанчанасць танцавальнага малюнка, якая вымагае ювелірнай адпрацоўкі кожнага «дробнага» руху, цяжка паверыць, што перад табой «народнік», а не прыроджаны класічны танцоўшчык.

**— Яшчэ адной маёй праблемай, — працягвае Аляксандр, — быў дуэтны танец. Гэты прадмет я таксама не вывучаў. Даводзілася шмат вучыцца — і непасрэдна ў рэпетыцыйнай зале, і на спектаклях. І тут узорам для пераймання заўсёды быў для мяне дуэт Людмілы Бржазоўскай і Юрыя Траяна, іх уменне разумець адно аднаго на сцэне.**

**Хоць я з радасцю працую над партыямі класічнага рэпертуару, мне больш падабаюцца сучасныя спектаклі, пастаўленыя В. Елізар'евым. Кожны вобраз у гэтых балетах настолькі выразны, што артыст з задавальненнем акунаецца ў іх стыхію, расце творча. Зараз не думаю пра новыя партыі, больш заклапочаны тым, каб удасканальваць ужо засвоеныя.**

**Наогул, мне здаецца, што артыст павінен ставіць перад сабой недасягальныя мэты. Калі толькі скончыў вучылішча і прыйшоў у тэатр, наўрад ці хтонебудзь, дый я сам уяўляў, што некалі буду танцаваць такія партыі! Для мяне, яшчэ вучня, кумірам быў народны артыст БССР Віктар Саркісьян, цудоўны віртуозны танцоўшчык. Неаднойчы бачыў яго ў розных спектаклях, асабліва часта ў партыі караля Філіпа ў «Цілі...» Я імкнуўся станцаваць гэтую партыю, можа, менавіта таму, што яе выдатна выконваў Саркісьян. Мара здзейснілася, а гэта заўсёды шчасце для артыста...**

●

І апошні, чацвёрты партрэт. А калі больш дакладна, дык толькі накід да яго. Бо маладая салістка Кацярына Ядлоўская, яна ж Кацярына Фурман, працуе ў тэатры толькі чацвёрты сезон і паспела выканаць яшчэ няшмат сольных партый. Гэта Уладарка дрыяд у «Дон Кіхоце», Магнолія ў «Чыпаліна», Прынцэса Фларына ў «Спячай красуні», Нікія ў балеце «Цені», прэм'ера якога была паказана сёлета на заканчэнне сезона.

Выкананне артысткай ролі вулічнай танцоўшчыцы Мерсэдэс (у новым «Дон Кіхоце» гэтыя дзве партыі спалучаны ў адну) прываблівае ўнутраным тэмпераментам пры знешняй стрыманасці пачуццяў, уменнем перадаць у адточаных пазіроўках, грацыёзным танцавальным малюнку стыль іспанскага танца.

Кожны, хто прыйшоў на прэм'еру «Спячай красуні», не мог не звярнуць увагу на К. Ядлоўскую — выканаўцу партыі феі Бэзу. Танюткая, амаль празрыстая, такая вабная ў сваім бэзавым хітоне, яна здавалася сапраўды казачным персанажам нават дасведчанаму гледачу, чыё ўспрыманне пазначана пэўным скептыцызмам. Танец маладой балерыны харашэў не адно толькі дакладнасцю харэаграфічнага малюнка, але і пяшчотнай прыгажосцю форм, чысцінёй пластычнай інтанацыі. Апякунка ўсіх фей у пралогу балета, уладарная і непахісная ў харэаграфічным паядынку з феяй Карабос, пяшчотная з Аўрорай, мудрая ў пластычных дыялогах з Дэзірэ, — такой паўставала гераіня Кацярыны Ядлоўскай. Магчыма, першаму выкананню партыі яшчэ не заўсёды хапала сэнсавага напаўнення ўсіх танцавальных эпізодаў. У гераінях Ядлоўскай часам адчуваецца пэўная ўнутраная статычнасць, так што ў акцёрскім плане балерыне ёсць што ўдасканальваць.

**— Над партыямі феі Бэзу і прынцэсы Фларыны мне пашчасціла працаваць з Ірынай Калпаковай пад час яе прыезду ў Мінск, — згадвае Кацярына. — З ёй вельмі цікава ў час рэпетыцый. Ірына Аляксандраўна непасрэдная, жвавая, рухавая. Умее настроіць на працу, нават калі табе здаецца: усё, больш няма ніякіх сіл. Думалася, што сусветна вядомая балерына будзе строгай, крыху непрыступнай. Але яна надзіва хутка знайшла агульную мову з выканаўцамі, здаецца, перадавала нам уласны эмацыянальны пад'ём.**

**Я выхаваная на балетнай класіцы, скончыла Маскоўскае харэаграфічнае вучылішча, дзе маім педагогам была Галіна Канстанцінаўна Кузняцова. Шмат чым ёй абавязана. Зразумела, Маскоўскае вучылішча мае, як бы гэта лепей сказаць, класічны ўхіл. Калі я пачала працаваць у Мінску, многае ў сучасных спектаклях мне здавалася нязвыклым, незразумелым. Шмат з убачанага проста не ўспрымала. Потым мае адносіны змяніліся, бо танцавала і зараз шмат танцую ў кардэбалеце многіх сучасных спектакляў.**

**Вельмі задаволеная, што пачала выконваць значныя, сольныя партыі. Елізар'еў прапанаваў мне ўжо рыхтаваць партыю Машы ў «Шчаўкунчыку». Гэта павінна быць мая першая вядучая партыя. Крыху хвалююся і разумею: пачынаецца іншае жыццё, іншыя ролі...**

●

Зразумела, мастакоўскае аблічча артыстаў, пра якіх ішла гаворка, не вычэрпвае ўяўлення пра цяперашнюю балетную моладзь тэатра наогул. Шкада, што памеры газетнага артыкула не дазваляюць падрабязна расказаць яшчэ пра Жанну Лебедзеву, якую памятаю ўсмешлівым цыбатым дзяўчом, што старанна выконвала нумары-практыкаванні на канцэртах харэаграфічнага вучылішча. Зараз зграбная танклявая артыстка танцуе шмат сольных партый у «Дон Кіхоце», «Спячай красуні», «Лебядзіным возеры», іншых спектаклях. Нарэшце, Лебедзева выканала сваю першую вядучую партыю пушкінскай Марыі ў «Бахчысарайскім фантане».

Удала дэбютаваў дзвюма значным ролямі — Зігфрыда і Дэзірэ ў «Лебядзіным возеры» і «Спячай красуні» малады танцоўшчык Веніямін Захараў. Звярнуў увагу глядач на такіх выканаўцаў сольных партый, як І. Белічкаў, І. Дудараў, А. Рулькевіч, М. Булычава, Н. Сокал, Т. Барэнава.

Поспех, калі ён прыходзіць, аплачаны адданай працай, здольнасцю адмаўляцца ад многіх спакус, прывабных бакоў паўсядзённага звычайнага жыцця. Аплачаны самаахвярнасцю, надзвычайнымі фізічнымі і эмацыянальнымі нагрузкамі.

І апошні штрых да калектыўнага партрэта. Размаўляць з маладымі артыстамі — сапраўдная, не толькі прафесійная, але і чалавечая радасць. Мо таму, што творчы лёс складваецца ўвогуле ўдала, мо гэта адметнасць характару, але светаўспрыманне маіх герояў не кранута ўсюдыісным скепсісам, гаркавай іроніяй, разбуральным нявер'ем. Яны перадаюць табе ўпэўненасць у сваёй артыстычнай будучыні, апантаную ўлюбёнасць у сваю справу, нарэшце, веру ва ўсемагутнасць абранага імі мастацтва, імкненнем пакарыць яго недасягальныя вяршыні...

Таццяна МУШЫНСКАЯ.



А. ФУРМАН — Меркуцыа. Фото В. ДРАЧОВА.

голас. Цэнтральныя нумары «Хабанера» і «Сегідылья» пададзены з годнасцю. Своеасаблівасць Кармэн В. Цішынай — у дэкламацыйнасці вакальнага майстэрства, што надае сцэнічнаму вобразу гераіні рысы рэалістычнасці, заземленасці, адводзіць вобраз ад рамантызацыі.

**МІКАЭЛА.** Артыстка Н. Кастэнка абвяргае каноны гэтага вобраза. У спектаклі на Мікаэле няма традыцыйнай блакітнай сукенкі, і валасы — чорныя з сінявой. Перад намі страсная іспанка, закаханая ў Хазэ, якая цярпіць у каханні фіяска. Голас — моцны, з хвалюючымі нізамі і зіхоткімі вярхамі — надае рысы волі і страснасці чароўна - безабароннай крохкасці аблічча спявачкі. У III дзеі, у драматычнай сцэне чакання сустрэчы з каханым і з разлучніцай-Кармэн, Мікаэла — Кастэнка паўстае незвычайнай жанчынай, поўнай жадання выйграць адзінаборства ў любоўным трохкутніку. У сцэне «Мікаэла — Хазэ — Кармэн» (III д.) псіхалагічная перавага на яе баку. Гэта таксама надае адметны нюанс прачытанню оперы. З такой нявестай Хазэ магчымы прапанаваны рэжысёрам варыянт фіналу, у якім Мікаэла выхоплівае нож і заносіць яго над Кармэн.

Мікаэла Т. Глаголевай — традыцыйная: мілая, сціплая, абаяльная. Роля выканана без мудрагельстваў. Тым больш здзіўляе яе з'яўленне ў фінале з нажом. Тое, што для Мікаэлы — Кастэнка арганічна, у выпадку з Мікаэлай — Глаголевай па-рэжысерску не пераканаўча.

**ХАЗЭ і ЭСКАМІЛЬЕ:** Выконваючы партыю Хазэ, Э. Пелагейчанка ўражвае створаным музычным вобразам. Магутны оперны голас, які ліецца лёгка, прымушае суперажываць і адгукацца на адлюстраваныя ў ім настроі закаханага. Пакуты, горыч, прадчуванне немінучай страшнай развязкі, — усё выліваецца ў дзівосную арыю Хазэ: «Видишь, как свято сохраняю цветок...» (II д). Артыст выконвае яе глыбока і пранікнёна.

У. Экнадзіёсаў у вобразе Хазэ добрапрыстойны. Сольныя нумары гучаць у яго выкананні спакойна, без афектацыі.

Вобраз Эскамільё, здаецца, не вымагае асаблівых вакальных і псіхалагічных акцёрскіх высілкаў, і тым не менш ён важны для цэласнасці драматургіі спектакля. Прачытанне вобраза аказалася паспяховым для выканаўцаў і з музычнага, і са сцэнічнага боку. Высокі, стройны А. Саўчанка стварае вобраз сапраўднага героя карыды, спрытнага пакарыцеля не толькі быкоў, а і жаночых сэрцаў. Капа бялявых валасоў Эскамільё Н. Масіеенкі ўносіць свой дзіўны нюанс у карціну стракатых іспана - цыганскіх матываў. Серабрысты касцюм, штосьці рыцарскае ў абліччах абодвух спевакоў робіць драматургічна зразумелай фінальную перавагу Эскамільё перад сапернікам. Артыст Ю. Бастрыкаў праводзіць гэтую ролю роўна і без накладак.

Перад намі прайшоў шэраг музычна-сцэнічных вобразаў. А што ж наконт цэласнай тканіны спектакля?

На мой погляд, пастаноўка актуалізавала першапачатковы намер лібрэтыстаў. Бо ў працэсе працы над операй Ж. Бізэ пісаў пра сваіх літаратурных сааўтараў: «Яны зробяць мне вясёлую п'есу, якую я пастараюся трактаваць як мага больш стрымана».

Дык вось, не толькі ў самой музыцы, а і ў дыялогах аўтарскага варыянта клавіра можна знайсці тыя рысы, якія паказваюць галоўнае: перад намі опера-драма, глыбокая жыццёвая трагедыя пакутных людзей, а не «вясёлая п'еса».

Звернемся да дыялогаў аўтарскай рэдакцыі тэксту, якія, на жаль, адсутнічаюць у большасці пастановак «Кармэн».

У самым пачатку дзеяння, калі Кармэн кідае кветку Хазэ, той усклікае: «Як спрытна яна кінула кветку: проста паміж вачэй. Нібыта куля ў мяне трапіла». Прыгадванне кулі — невыпадкова. Гэта не толькі метафара раптоўнага нараджэння кахання, але і прадказанне трагічнай будучыні гэтага кахання. У гэтых словах — цудоўны і пакутлівы пачатак канца. Звернемся і да аповяда Хазэ пра бойку, учыненую Кармэн. Ён убачыў параненую імпульсіўнай цыганкай дзяўчыну, якая ляжала, сцякаючы крывёй. На твары ў яе нажом быў выразаны крыж. Гэтыя нюансы могуць надаць твору змрочны каларыт, здатныя раскрыць сутнасць неўтаймоўнай асобы Кармэн. Расказ самога Хазэ пра сваё жыццё таксама ўносіць лагічны штрых да разумення яго крывавай помсты Кармэн. Ён будзённа распавядае, як вымушаны быў уцякаць з родных мясцін Навары, бо ў бойцы забіў аднаго хлопца, які не захацеў прызнаць яго пераможцам гульні ў шары.

Ці ж такі напал страсцей можа выліцца ў лёгкаважка-вясёлую п'есу, якая абыгрывае бытавую пікантную спрэчку?

Наш спектакль «Кармэн» увасабляе, на жаль, не жаданне кампазітара, а першапачатковы намер лібрэтыстаў. Афарміцельская кідкасць, яркасць паднясення харавых сцэн, якія суправаджаюцца шумавымі эфектамі, на жаль, не папаўняе, а падкрэслівае страту глыбіні спектакля. Гэта, думаю,— і ад залішняй, часам утрыраванай пастановачнай дэталізацыі. Надакучлівае пастаяннае мільгаценне ў II, а потым і ў III дзеях у цыганак ножыкаў, якія з крывавага сімвалу ператвараюцца ў цацку, якую какетліва абыгрываюць. Забаўнае і не пераканаўчае выкарыстанне вяровак з яркімі дэкаратыўнымі сцяжкамі для звязвання рук Кармэн у сцэне яе арышту. Усё падкрэслівае ўмоўнасць, буфанаду, гратэск сцэнічных момантаў.

Ловіш сябе на думцы, што глядзіш псіхалагічна аблегчаны спектакль, спектакль-вадэвіль, а часам і спектакль-кітч са стылёвым змяшаннем сцэнічных прыёмаў. Тут выкарыстоўваюцца прыёмы натуралістычныя (напрыклад, сцэна ў таверне з палеглымі на сталах цыганкамі ў фрывольных позах, з салдатамі, якія недвухсэнсоўна знаходзяцца «побач», распластаная на стале Кармэн, якая падымае ўверх ножкі і г. д.), і прыёмы абстрактныя, гранічна абагульненыя (напрыклад, фінальная сцэна з сімволікай умоўнага распінання Кармэн на рашотцы цырка і г. д.). Пры суіснаванні рознастылёвых афарміцельскіх і драматургічных прыёмаў сур'ёзнасць, трагічнасць дзеяння адступае на такі далёкі план, што раствараецца і знікае за не заўсёды густоўнымі дэталямі.

Засмучае і згадка пра тое, як непрадуманасць дэкларацый у адным са спектакляў адыграла злы жарт, хоць і глядзельнай зале ў гэты момант было не да ўсмешак і зласлоўя. У фінале оперы павіслыя абстрактныя дэкаратыўныя структуры заблыталіся пры павароце сцэны ў гірляндах сцяжкоў, што аздаблялі цыркавую арэну карыды, і застапарылі ўсю «машынерыю». Узнікла экстрэмальная сітуацыя. На пярэднім плане разгортвалася трагедыя Хазэ і Кармэн, а на заднім не па-тэатральнаму хвалявалася ўся масоўка. За маніпуляцыямі смельчака, які здымаў заблытаныя канцы канатаў, сачыла зала. Хутка публіка ўздыхнула з палёгкай. Але тут жа дыханне перахапіла зноў: застапарылася рашотка, на якой эфектна павінна была застыць «забітая» Кармэн. Пра дуэт спевакоў ужо мала хто думаў. Фінал фактычна быў спляжаны. Ці апраўдана афармленне спектакля, калі прыводзіць да такога выніку?

І ўсё ж у новай пастаноўцы оперы ёсць «стрыжневая плоць» — сама геніяльная музыка (нягледзячы ні на што і нават насуперак некаторым рэжысёрскім і афарміцельскім пралікам). Ёсць цудоўнае выкананне аркестрам сваёй партыі. Аркестр — самы дасканалы і бездакорны герой: віртуозныя і тактоўныя ўдарныя і духавыя інструменты, нечакана маналітнае гучанне струннай групы, багатая дынамічная палітра — ад найціхага піянісіма да мяккага фортэ, якое не выклікае раздражнення. Аркестр не парушае межы сапраўднага густу; А. Анісімаў вядзе спектакль віртуозна. Яго воля, агністы тэмперамент забяспечваюць цэласнасць і дынамічнасць дзеяння.

Прагучалі апошнія акорды «Кармэн». З чым гледачы пакідаюць залу? Хтосьці скажа: яны атрымалі маляўнічы, цікавы, жывы твор, які будзе мець поспех у шырокай публіцы. Ды важна ў той жа час, каб музычная пастаноўка была ўзорам мастацкага густу.

**Наталля СЦЕПАНЦОВА.**

*На жыццёвых скрыжаваннях*

# «Як вашы дзеткі гадуюцца?»

Сагайдаравых добра ведаюць у Жодзіне, жывуць яны тут, маці і дачка, гадоў пятнаццаць. Людміла Іванаўна ўвесь час працавала настаўніцай у жодзінскай СШ №1, дачка Марына Ахатаўна ў СПТВ-149, выкладала гісторыю. Як вядома, многія жыхары Жодзіна — прыезджыя. Сагайдаравы прыехалі сюды з Сахаліна. Марына некалі скончыла Паўднёва-Сахалінскі педінстытут, факультэт гісторыі, у хуткім часе выходзіць замуж. У яе з'яўляецца сын Саша, пасля дачка Наташа. Дзеці былі вялікай радасцю і для маці і для бабулі. Ішлі гады, падрасталі дзеці Марыны Ахатаўны. Усё як быццам было добра. Але, мабыць, не так сабе кажуць: дабро без ліха рэдка бывае. Ні з таго, ні з сяго пачала часта хварэць Наташа. І на дом урачоў выклікалі, і ў бальніцу хворую клалі — нічога не дапамагала. Старэйшыя Сагайдаравы месца сабе не знаходзілі. Нарэшце ўрачы сказалі, што трэба змяніць клімат, інакш Наташа не папravіцца.

Неўзабаве яны размянялі чатырохпакаёвую кватэру на трохпакаёвую ў Жодзіне.

Трэба сказаць, што на новым месцы жыхарства ў Наташы хваробу як рукой зняло.

З вялікай радасці, што да дачкі і ўнучкі вярнулася ранейшае здароўе, Сагайдаравы-старэйшыя праяўляюць вялікую міласэрнасць. І гэта не перабольшванне. Бо якім другім словам можна назваць факт усынаўлення дзесяці дзяцей?

Першым у іх доме з'явіўся хлопчык Віктар. Двухгадовы, ён амаль не ўмеў гаварыць, дрэнна хадзіў, быў дзікуном. Нават дзяцей Марыны Ахатаўны не хацеў слухацца. Яму не было з кім гуляць, і Сагайдаравы вырашылі ўзяць у кватэру яшчэ малое, амаль такога ж узросту, як і Віктар.

Марына Ахатаўна выхаднымі пачала наведваць дом дзіцяці ў Мінску. Неўзабаве ёй прыглянулася дзяўчынка-негрыцянка. Аднак узяць яе дадому пакуль што нельга было. Справа ў тым, што маці малой, уругвайка па нацыянальнасці, вучылася ў Мінскім медінстытуце. Зімовымі канікуламі яна пакінула дачку ў інтэрнаце і паехала дадому. Дзяўчынка месяц пабыла ў інтэрнаце, пасля камендант здаў яе ў дом дзіцяці. Аднак правы на дзяўчынку захоўваліся за маці да году. Марына Ахатаўна прывязалася да гэтага дзіцяці, прывозіла гасцінцы, падоўгу забаўляла, спадзявалася, што яна стане яе дачкой.

Але так не атрымалася. Роўна праз год з'явілася маці і забрала сваю дачку.

— Наведваючы негрыцянку,— расказвала Марына Ахатаўна,— я знаёмілася з другімі дзецьмі. Мне спадабаўся адзінаццацімесячны Максімка... Але калі я пайшла афармляць яго на сваё імя, у Маскоўскім райвыканкоме Мінска мне задалі пытанне: чаму я бяру цёмнаскурае дзіця? Я адказала: іх у нас мала хто бярэ.

Сям'я Сагайдаравых была шчаслівая. Аднак Максімка сваім выглядам адрозніваўся ад іншых дзяцей. Дзеці ў садзе здзіўляліся: адкуль у малога афрыканскі выгляд? Дзеці ёсць дзеці. Празмерная цікаўнасць іх да Максімкі рабіла хлопчыка задуменным, сумным.

На сямейным савеце Сагайдаравы парашылі ўзяць хлопчыку брацікa. Але Марына Ахатаўна прывезла дваіх дзяцей — Кіру і Антонку. Дзяўчынка напалову ліванка, хлопчык — кубінец. Цяпер нельга было сказаць, што між імі — смуглымі і чорнавалосымі — няма сваяцтва.

— У доме дзіцяці ў Мінску заставалася яшчэ адна дзяўчынка,— працягвала свой расказ Сагайдарава-малодшая.— Я яе тады не ўзяла. Аднак яна вельмі хацела стаць маёй дачкой. Паверце, я страціла спакой. Чарнавокая малютка пачала прыходзіць нават у сны. І праз нейкі час я ўзяла яе і яшчэ дзвюх дзяўчынак. Такім чынам, наша сям'я павялічылася адразу на траіх: Зару, Хрысціну і Сашу. У тым жа 1988 годзе ўзялі яшчэ Барыса. Ён таксама цёмнаскуры.

У мінулым годзе, прачытаўшы ў газеце, што ў Барысаўскім доме дзіцяці хлопчык-негрыцятка вельмі хоча мець маму, Марына Ахатаўна едзе туды і забірае Дзяніску. Неўзабаве з Жодзінскага дзіцячага дома забірае філіпінку Кацю — аднагодку Дзяніскі.

Цяпер сям'я стала сапраўды інтэрнацыянальнай. Тут ёсць кубінцы, уругвайцы, ліванцы, з вострава Зялёны Мыс, філіпінцы, эфіопы. Ёсць, канечне, дзеці рускіх і беларусаў.

Саша адслужыў армію, ажаніўся, мае сына і жыве ў бабулінай кватэры, займае два пакоі, трэці — Людміла Іванаўна. Бо хоць і атрымала Марына Ахатаўна на сваю немалую сям'ю новую кватэру — усё адно цеснавата. Наташа летась скончыла сярэднюю школу і паступіла ў інстытут народнай гаспадаркі.

— Асаблівых да сябе адносін Сагайдаравы не патрабуюць,— гаворыць Валянцін Пятровіч Грамаза — намеснік старшыні гарвыканкома.— Сціплыя яны людзі. І ніякага подзвігу ў сваім учынку не бачаць... Уявіце сабе: пройдуць гады, пусціць карэнні на беларускай зямлі шматнацыянальны род Сагайдаравых...

Я запытаўся ў Марыны Ахатаўны, чаму яна ўсынавіла столькі дзяцей.

— У кожнага чалавека ёсць сваё імкненне да чагосьці добрага, я б сказала, святога,—адказала яна.— Вельмі люблю дзяцей. За нашы клопаты дзеці плоцяць нам усмешкай, ласкай, пяшчотай. А думка дапамагчы дзецям-сіротам у мяне зарадзілася даўно, яшчэ ў 1983 годзе, калі я паглядзела фільм «Гаспадыня вялікага дома».

Марына Ахатаўна нейкі момант глядзіць на хлопчыкаў і дзяўчынак і заўважае:

— Дзіву даюся: чаму сёння між некаторымі людзьмі пануе нянавісць? Што яны не падзеляць? Гляджу я на сваіх малютак: якія яны мілыя...

У верасні мінулага года Мінскі аблвыканком надаў Сагайдаравым статус сямейнага дзіцячага дома. Гэта першы сямейны дом у рэспубліцы.

Людміла Іванаўна і яе дачка Марына Ахатаўна — цудоўныя, добразычлівыя жанчыны. Абедзве маюць урадавыя ўзнагароды. Людміла Іванаўна — заслужаная настаўніца РСФСР, персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння.

Марына Ахатаўна летась атрымала Ганаровую грамату Мінскага абласнога Савета Дзіцячага фонду імя Леніна за вялікія клопаты аб дзецях, стварэнне ім спрыяльных умоў для жыцця, развіцця і аховы здароўя.

У дом да Сагайдаравых часта прыходзяць пісьмы, пасылкі. Пішуць былыя вучні з горада Аляксандраўска - на - Сахаліне, пішуць незнаёмыя людзі з Масквы, Мінска, Тбілісі, Кіраваграда, Ліпецка, з Варшавы і Гамбурга. Людзі розных нацыянальнасцяў і розных узростаў выказваюць сваё шчырае захапленне ўчынкам Сагайдаравых.

— Мой Саша,— прыгадвае Марына Ахатаўна,— служыў у арміі ў Закаўказзі. Калі я прыехала туды адведаць сына, мяне прынялі там вельмі цёпла. І дадому праводзілі са шчырымі падарункамі, дзеці былі ім надта радыя. Добрыя ў нас ёсць людзі. З Гомеля, напрыклад, таваразнаўца па мэблі прывезла кніжныя шафы, кушэтку. Тацяна Сідорык — ад жанаддзела БелАЗА —часта прыходзіць да нас. Дзеці яе любяць. Убачаць праз акно і крычаць: «Цётка Таня ідзе!» Яе аўтамашынай мы часта карыстаемся, каб прывезці з крамы прадукты. Шэфы БелАЗА выдзелілі грошы на набыццё мэблі, а цяпер будуюць для нас дачны домік. Намеснік старшыні абласнога Савета дзіцячага фонду Галіна Пронька падарыла тэлевізар, 2—3 разы ў год возіць дзяцей у цырк... Усе нам стараюцца дапамагаць,— як бы заключае сваю думку Марына Ахатаўна. — Днямі ў нас сапсаваўся тэлевізар. Паверце, людзі з Дома быту раніцай узялі яго і ў той жа дзень, пад вечар, вярнулі спраўны. Словам, мы парадніліся з людзьмі амаль усяго горада. Сустрэнецца на вуліцы жанчына (я яе, здаецца, першы раз бачу), а яна пытае: «Як вашы дзеткі гадуюцца?»

**І. СІНЯЎСКІ.**

г. Жодзіна.

# І ЯШЧЭ РАЗ ПРА БІБЛІЯТЭКУ СА ШЧОРСАЎ

ВЯДОМЫ ў свой час на Беларусі род Храптовічаў — адзін з самых старажытных і ўплывовых на нашых землях.

Першым з гэтага роду ў гістарычных крыніцах згадваецца Якаў Храптовіч, які жыў у пачатку XV стагоддзя. Найбольш значным прадстаўніком роду быў Іяхім Літавор Храптовіч, які нарадзіўся ў 1729 годзе.

Менавіта ён у сваім родавым маёнтку Шчорсы і заснаваў бібліятэку, якая стала значнай культурнай з'явай на Беларусі.

Бібліятэка Храптовічаў збіралася на працягу другой паловы XVIII і першай паловы XIX стагоддзяў. Іяхім Літавор Храптовіч набыў кнігі ў час падарожжаў па Францыі, Германіі, Галандыі, Польшчы, Літве, Беларусі. Адной з найбольш значных крыніц набыцця заходнееўрапейскіх стардрукаў была багацейшая бібліятэка кардынала Іосіфа Імперыялі ў Рыме.

Другой крыніцай набыцця стардрукаў быў збор вядомага ў XVIII стагоддзі польскага дзяржаўнага і рэлігійнага дзеяча, заснавальніка Варшаўскай публічнай бібліятэкі епіскапа Іосіфа Залускага.

Як вядома, пасля раздзелаў Рэчы Паспалітай новыя ўлады ліквідавалі вялікую колькасць каталіцкіх манастыроў, а іх бібліятэкі распрадавалі. Гэта таксама скарыстаў Храптовіч, каб узбагаціць сваю бібліятэку.

Да сваіх апошніх дзён граф Храптовіч папаўняў бібліятэку кнігамі і рукапісамі. Пасля яго смерці збор перайшоў да яго сына Адама Храптовіча, а потым, пасля смерці Адама Храптовіча збор перайшоў у спадчыну да яго пляменніка Міхаіла Храптовіча, рускага дыпламата ў Неапалі, Бруселі, Лондане, а ад яго — да сына сястры Міхаіла Апалінарыевіча Храптовіча — Буцянёва. Апошні са сваім братам, уладальнікам маёнтка Шчорсы Канстанцінам Апалінарыевічам у 90-я гады XIX ст. упарадкавалі бібліятэку, а вядомы пецярбургскі вучоны С. Л. Пташыцкі склаў і ў 1909 годзе выдаў каталог «Щорсовская библиотека графа Литавора Хрептовича: Краткие сведения о собрании рукописей».

Апошні уладальнік Шчорсаў К. А. Храптовіч-Буцянёў вырашыў перадаць кнігазбор на дэпазіт (часовае захаванне) у бібліятэку Кіеўскага універсітэта св. Уладзіміра, дзе ён быў бы даступны шырокаму вучонаму свету. Перадача была зроблена ў 1913 г., але з умовай, што з адкрыццём універсітэта на радзіме бібліятэка будзе вернута.

Няпроста склаўся лёс універсітэта імя св. Уладзіміра і яго бібліятэкі. Калі ў 1915 годзе Кіеву пагражала акупацыя, універсітэцкія зборы (разам з каталогамі і інвентарнымі кнігамі) былі эвакуіраваны ў Саратаў і вернуты ў Кіеў у 1916 годзе. Дапушчальна, што туды была вывезена і бібліятэка Храптовічаў.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі на базе універсітэта імя св. Уладзіміра было заснавана некалькі навучальных устаноў: Кіеўскі медыцынскі інстытут і Кіеўскі інстытут народнай адукацыі. Збор Храптовічаў нейкі час знаходзіўся ў інстытуце народнай адукацыі ў нераспакаваных скрынях. А ў 1927 годзе згодна з пастановай калегіі Народнага Камісарыята адукацыі Украіны ад 2 жніўня 1926 года Фундаментальная бібліятэка універсітэта імя св. Уладзіміра з фондам 500 тыс. тамоў (у яе ліку — калекцыя са Шчорса) была перададзена Усенароднай бібліятэцы Украіны пры Украінскай акадэміі навук, дзе яна захоўваецца да гэтага часу.

Аднак навуковую і культурную грамадскасць Беларусі ўвесь час цікавіў далейшы лёс гэтай бібліятэкі. Яшчэ ў снежні 1924 г. Народны камісарыят асветы БССР звярнуўся да Народнага камісарыята асветы УССР з просьбай вярнуць бібліятэку Храптовічаў на Беларусь. Прэзідыум Наркамасветы УССР згадзіўся з просьбай, але па нейкіх прычынах у той час гэта не было зроблена. Аб звароце бібліятэкі была прынята рэзалюцыя на І з'ездзе даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі, але і гэта не мела выніку.

У апошні час камісія «Вяртанне» Беларускага фонду культуры прымае захады, каб вярнуць каштоўны кнігазбор у рэспубліку. У 1989 годзе ў першым нумары бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» змешчана падборка архіўных дакументаў пад агульнай назвай «Калі будзе вернута бібліятэка?»

Аўтары гэтых радкоў былі камандзіраваны Беларускім фондам культуры ў Кіеў у Цэнтральную навуковую бібліятэку АН УССР для высвятлення сучаснага стану найбольш захаванай часткі кнігазбору Храптовічаў.

Увесь гэты час збор Храптовічаў, як і іншыя каштоўныя фонды, быў пад увагай калектыву акадэмічнай бібліятэкі і яму забяспечваліся неабходныя ўмовы захавання. Дастаткова напомніць, што збор Храптовічаў разам з фондам акадэмічнай бібліятэкі ў 1941 годзе ў другі раз быў эвакуіраваны, на гэты раз ва Уфу, і адтуль быў вернуты ў Кіеў у 1944 г.

Сёння ў філіяле Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН УССР, у памяшканні былой Кіева-Магілянскай духоўнай акадэміі на Падоле захоўваецца асноўная частка кнігазбору Храптовічаў.

Згодна з гістарычнымі звесткамі, бібліятэка налічвала больш за 10000 экз. (па другіх крыніцах нават да 20 тыс.). У Кіеў было перададзена прыкладна 7000 экз. (каля 4 тыс. назваў).* У 1985 годзе разам з іншымі калекцыямі збор Храптовічаў быў заінвентарызаваны, у выніку чаго было ўлічана 2005 экземпляраў кніг (не ўлічваючы рукапіснай часткі, аб ёй гаворка асобна). Як бачна, значная колькасць кніг на працягу часу згублена. Магчыма, нейкая іх частка разышлася па фондах бібліятэкі Кіеўскага універсітэта імя Шаўчэнкі, Рэспубліканскай гістарычнай бібліятэкі. Відаць, кнігі з калекцыі Храптовічаў таксама трэба пашукаць у Саратаве і Уфе, куды збор быў вывезены ў час вайны.

На кніжную частку бібліятэкі Храптовічаў ёсць рукапісны алфавітны каталог, выкананы на картках памерам 17,8x11 см, які захоўваецца разам з кнігамі. На кожную кнігу было складзена падрабязнае апісанне, якое сведчыць пра глыбокае веданне аўтарам апісання сучаснай яму кнігазнаўчай літаратуры і кніжнай справы. Можна меркаваць, што ім мог быць Н. Эрнст, памочнік бібліятэкара бібліятэкі Універсітэта св. Уладзіміра, які сачыў за перадачай бібліятэкі ў Кіеў, ці пецярбургскі вучоны С. Л. Пташыцкі. Унізе на картках, відаць, пазней зроблены надпіс алоўкам па-польску: Adam Chrapt. Мяркуючы па цісненню ў верхнім левым ражку картак, яны зроблены з паперы Добрушскай папяровай фабрыкі князя Паскевіча.

У аддзеле рукапісаў ЦНБ АН УССР захоўваюцца два рукапісныя каталогі, складзеныя яшчэ пры жыцці заснавальніка бібліятэкі і з яго паметамі.

Умоўна і збор кніг можна падзяліць на дзве часткі: заходнееўрапейскія выданні XV—XVIII стст. і польскія выданні XVI—XIX стст.

Польская частка уключае творы арыгінальнай і перакладной літаратуры: гістарычныя зборнікі хронік польскіх летапісцаў, гістарычныя, філасофскія, публіцыстычныя творы ў выданнях XVIII ст.; першыя польскія кнігі свецкага характару XVI—пач. XVII ст., у ліку якіх — выданні Варшавы, Кракава, Торуні, Львова і г. д. Сярод найбольш рэдкіх — першыя выданні Мікалая Рэя, Яна Каханоўскага, працы Б. Папроцкага, Гваніні, М. Кромера. Ёсць віленскія выданні XVI ст. з друкарань Яна Карцана, Даніэля Лянчыцкага; значная колькасць кніг, надрукаваных у Вільні ў XVIII — пачатку XIX ст., у тым ліку дысертацыі. Сустракаюцца гродзенскія выданні XVIII ст.; полацкія пачатку XIX ст., выдатна захавалася кніга «Monarchia Turecka». Sluck, 1678 з гравюрамі Максіма Вашчанкі.

Сярод заходнееўрапейскіх кніг — творы антычных аўтараў, старажытнагрэчаскіх гісторыкаў, філасофаў, паэзія, драматургія, проза, аратарскае мастацтва, багаслоўская літаратура, літаратура па гісторыі і геаграфіі асобных краін, класічная французская літаратура і г.д. Сярод іх — 3 інкунабулы (кнігі, выдадзеныя да 1500 г.), уключаныя ў друкаваны каталог калекцыі, палеатыпы (выданні з 1501 па 1550 г.), кнігі XV—XVIII стст. з друкарань Венецыі, Базеля, Лейпцыга; выданні знакамітых друкароў Плантэнаў, Фрабэнаў і шмат што іншае. Інкунабулы і палеатыпы з калекцыі Храптовічаў пераведзены ў фонд аддзела рэдкіх кніг.

Пераважная большасць захаваных кніг апраўлена ў пераплёты з пергамента і скуры. Амаль на ўсіх кнігах ёсць экслібрысы. Частка іх — ярлыкі з тэкстам двух відаў: адзін, напэўна, зроблены ў 1772—92 гг., калі Храптовіч быў падканцлерам Вялікага княства Літоўскага; другі, упрыгожаны віньеткай, відаць, адносіцца да 1793—95 гг., калі ён быў ужо канцлерам. Частка экслібрысаў — гэта адбітак штэмпеля чорнага і чырвонага колеру. Акрамя экслібрысаў Храптовічаў, на кнігах захаваліся надпісы, штэмпелі, наклейкі былых уладальнікаў — кардынала Імперыялі, епіскапа Залускага і інш.

Рукапісная частка калекцыі Храптовічаў, якую апісаў Пташыцкі, захоўваецца асобным зборам у аддзеле рукапісаў. Са 129 рукапісаў, улічаных у друкаваным каталозе, да нашага часу дайшлі 113. 16 рукапісаў згублена.

Яшчэ ў 1937 годзе рукапісы былі абследаваны, апрацаваны і прадстаўлены чытачам. Сярод іх выдзяляюцца чатырохтомны рукапіс Браніцкага (XVIII ст.), «Прамовы Яна Храптовіча Навагрудскага каштэляна...» (XVIII ст.), сеймавыя і сеймікавыя акты, дзённік С. Маскевіча 1594 г. (які быў выдадзены Нямцэвічам і Устралавым), Біблія на латыні, пісаная на пергаменце, у XV ст.; спісак другога Статута Вялікага княства Літоўскага, гісторыя роду Храптовічаў, якую склаў сам Іяхім Храптовіч, і інш.

На жаль, страчаны зборнікі XVII—XVIII стст., у якіх былі лісты Хмяльніцкага, дзённік прыезду Марыны Мнішак, які вёў яе спадарожнік Дземантоўскі (друкаваўся Тургеневым у другім томе «Актов исторических»), адзін з тамоў польскай метрыкі «Libri legationum».

Вядома, што ў Шчорсах, акрамя рукапіснага збору, існаваў архіў. Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі архіў Храптовічаў быў «нацыяналізаваны» і ў 1925 годзе перададзены Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы імя Салтыкова - Шчадрына. Мы маем права сёння паставіць пытанне, чаму менавіта ў Ленінград пайшоў каштоўны збор, калі яшчэ ў 1922 г. была ўтворана Дзяржаўная бібліятэка БССР і ўжо працаваў Інстытут Беларускай культуры.

У час гутарак з членамі калектыву акадэмічнай бібліятэкі і прадстаўнікамі дырэкцыі з украінскага боку была выказана думка аб тым, што мы маем права ставіць сёння пытанне аб вяртанні бібліятэкі Храптовічаў, але яны да гэтага адносяцца негатыўна. Украінскія таварышы лічаць, што забеспячэнне захавання збору на працягу амаль стагоддзя дае ім маральнае і этычнае права лічыць гэты збор уласнасцю ўкраінскага народа.

Улічваючы гэта, намі разам з дырэкцыяй абумоўлены пытанні аб рабоце над праграмай па далейшым захаванні калекцыі і інфармаванні аб ёй беларускай грамадскасці. Прадугледжваецца наступнае.

Па-першае, украінскім установам культуры спрабаваць адшукаць страчаную частку калекцыі і аб'яднаць з асноўным зборам.

Па-другое, для бібліятэк Беларусі, у прыватнасці для Дзяржаўнай бібліятэкі імя У. І. Леніна і Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР, зрабіць па камплекту мікракопій (мікрафільмаў) рукапіснага збору.

Па-трэцяе, распачаць работу па бібліяграфічнай рэканструкцыі бібліятэкі Храптовічаў (ці апісанні захавальнай часткі) з канчатковым вынікам — выданнем ілюстраванага каталога калекцыі.

Над выкананнем гэтай праграмы маглі б працаваць названыя бібліятэкі Беларусі, Беларускі фонд культуры і установы культуры Украінскай ССР. Магчыма, патрэбна будзе стварыць двухбаковую рабочую камісію.

Выкананне такой праграмы — гэта вяртанне кнігазбору на радзіму (хоць і ў пераносным сэнсе), вяртанне нашай гісторыі.

**А. ФУРС,**
**загадчык аддзела камплектавання Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа АН БССР;**
**Т. РОШЧЫНА,**
**загадчыца аддзела рукапісаў, рэдкай кнігі і стардрукаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.**

*Кнігі, што засталіся ў Шчорсах, па адных звестках, былі знішчаны ў час 1-й сусветнай вайны, па другіх — вывезены ў Маскву.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

Літаратура і Мастацтва

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.